# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



№ 6

ЧЭРВЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ і БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## З Ь М Е С Т.

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 6 (12) | Чэрвень | 1930 г.

## Як павінен працаваць сельскі савет

*(Новы закон пра сельскія саветы).*

Калі параўнаць сучасны зьмест і ўмовы работы сельскіх саветаў з тымі, якія былі тры гады, два і нават год назад, то мы ўбачым вялізарнейшую розьніцу. Тады ня было яшчэ такіх значных разьмераў калгаснага руху, якія маюцца зараз. Зараз перад сельскімі саветамі, як органамі дыктатуры пралетарыяту, стаіць вялікая задача калектывізацыі бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Калгасны рух апошняга часу паказаў, што сельскія саветы пры тых правох і абавязках, якія былі вызначаны для іх палажэньнем 1925 году і ў адбыўшыхся зьменах гэтага палажэньня, не адпавядаюць сучаснасьці, не забясьпечваюць вырашэньня сельскімі саветамі задач рэканструкцыі сельскай гаспадаркі шляхам суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай падставе кулацтва, як клясы.

Сельскія саветы ў час пашырэньня калгаснага руху ў значнай сваёй частцы стаялі ў баку ад калектывізацыі. У сваёй практычнай рабоце сельскі савет часта замыкаўся ў абмежаванае кола адміністрацыйна-падатковых пытаньняў. Іншых пытаньняў сельскі савет самастойна не вырашаў, не кіраваў іншымі галінамі працы, а толькі „садзейнічаў“ іх вырашэньню. Пры гэтым трэба адзначыць, што асабліва слабым месцам у рабоце сельсаветаў была гаспадарчая культурная галіна.

Аднэй з важнейшых прычын, па якіх гэта галіна працы была адсталай, бязумоўна зьяўляецца адсутнасьць матар'яльнай базы ў сельскіх саветах, адсутнасьць сельскіх бюджэтаў, пры гэтым бюджэтаў сапраўдных, а не папяровых, якімі ў большасьці зьяўляліся і зьяўляюцца да гэтага часу сельскія бюджэты.

З мэтай перабудовы работы сельскіх саветаў на новых падставах і для правядзеньня гэтай работы ў адпаведнасьці з новымі гаспадарчымі задачамі і ўмовамі і ў сувязі з разгорнутай калектывізацыяй, і прынята 21-га красавіка г. г. Прэзыдыумам ЦВК БССР новае палажэньне пра сельскія саветы. У аснову гэтага палажэньня пакладзены саюзны закон, прыняты Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР 3-га лютага г.г. „Асноўныя палажэньні аб арганізацыі сельскіх саветаў у Саюзе ССР“.

Якая асноўная задача выданьня новага палажэньня пра сельскія саветы?—Узмацніць сельскія саветы, як органы дыктатуры пралетарыяту ў вёсцы, паставіць іх, як сапраўдных кіраўнікоў на чале сацыялістычнай перабудовы жыцьця вёскі шляхам сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, даць магчымасьць сельскім саветам задаволіць запатрабаваньні бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў розных галінах і для гэтага ўзброіць іх неабходнымі правамі.

„Сельскі савет зьяўляецца вышэйшым органам улады ў межах яго тэрыторыі",—вось тая ўстаноўка, у адпаведнасьці з якой пабудавана новае палажэньне пра сельскія саветы. Вызначаючы сельскім саветам значныя правы і, у адпаведнасьці з гэтым, ускладаючы на сельскія саветы вялікія абавязкі, палажэньне вызначае, што ў выпадках, калі будзе выкрыта поўная бязьдзейнасьць сельсавету або скрыўленьне ім клясавай пралетарскай лініі ў відзе слабага кіраўніцтва сацыялістычнай рэканструкцыяй вёскі і зьвязанай з гэтым ліквідацыяй кулацтва, як клясы, на падставе суцэльнай калектывізацыі, а таксама ў відзе слабай работы па арганізацыі батрацтва і беднаты і г. д.—робяцца датэрміновыя перавыбары саветаў.

Новае палажэньне не вызначае той колькасьці насельніцтва, якое сельскі савет павінен аб'яднаць. Вызначаецца агульнае правіла, што сельскія саветы ўтвараюцца як у паасобных паселішчах сельскага тыпу (вёсках, калгасных аб'яднаньнях), гэтак і ў аб'яднаньнях паселішчаў. Аб'яднаньне паселішчаў павінна адпавядаць інтарэсам палітычнага, нацыянальнага, гаспадарчага і культурнага разьвіцьця працоўнага насельніцтва гэтых паселішчаў. Пры вызначэньні межаў сельскіх саветаў прымаюцца пад увагу: колькасьць насельніцтва, яго кампактнасьць, нацыянальны склад, стан шляхоў і сродкі сувязі.

Для ўзмацненьня сацыялістычнай, гаспадарчай і культурнай дзейнасьці сельскіх саветаў, для ўзмацненьня ролі сельскіх саветаў у сацыялістычнай перабудове быту шырокіх рабочых, батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства, ва ўсіх сельскіх саветах утвараюцца самастойныя бюджэты. Закон пры гэтым дакладна вызначае і тыя крыніцы, з якіх гэтыя бюджэты павінны складацца. Усім сельскім саветам закон дае права юрыдычнае асобы. Гэта зусім зьяўляецца зразумелым і неабходным, калі прыняць пад увагу, што сельсавет, а ніхто іншы, зьяўляецца гаспадаром маемасьці і прадпрыемстваў сельскага значэньня.

У галіне сельскай гаспадаркі новае палажэньне вызначае сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, шляхам арганізацыі калгасаў і іншых каапэрацыйных аб'яднаньняў, як асноўную задачу дзейнасьці сельскіх саветаў. Закон абавязвае сельскія саветы разьвіцьцё індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, аказваючы ім усякую дапамогу, накіроўваць у бок іх суцэльнай калектывізацыі. Для вырашэньня гэтай задачы сельскія саветы павінны разгарнуць вакол калектывізацыі вялікую сыстэматычную штодзенную растлумачальную і арганізацыйную працу.

У галіне сацыяльна-культурнай сельскія саветы абавязаны праводзіць шэраг мерапрыемстваў для падвышэньня культурнага і палітычнага ўзроўню сельскага насельніцтва. Сельскія саветы абавязаны ўжываць захады да правядзеньня ўсеагульнага навучаньня, прымаць меры да разьвіцьця тэатральнай, кіно-тэатральнай і радыёвяшчальнай справы, прымаць меры да большага ахопу школай дзяцей беднаты, для чаго сельскія саветы павінны арганізаваць матар'яльную дапамогу

дзецям беднаты і тым забясьпечыць ім магчымасьць наведваць школу і г. д. На сельскія саветы ўскладаецца кіраваньне будаўніцтвам жылішч, розных гаспадарчых пабудоў, школ, клюбаў, больніц і інш. будаўніцтвам, якое разгортваецца ў калгасах. Сельскія саветы павінны клапаціцца аб аздараўленьні калгасаў і паасобных паселішчаў шляхам арганізацыі і правядзеньня санітарна-прафіляктычных мерапрыемстваў. Наогул, сельскія саветы павінны зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на ахову здароўя працоўнага насельніцтва і на правядзеньне тых мерапрыемстваў, якія гэтаму садзейнічаюць, напр., саветы павінны прымаць меры к разьвіцьцю фізычнай культуры, пабудове грамадзкіх і хатніх бань і прачашных, грамадзкіх сталовак, наглядаюць за захаваньнем санітарных правілаў пры пабудове новых будынкаў, а таксама пры пляніроўцы паселішчаў, наглядаюць за пабудовай і становішчам крыніц піцьцёвай вады, клапацяцца аб арганізацыі аховы мацярынства і младзенства, арганізуюць і садзейнічаюць арганізацыі сельскіх мэдыка-санітарных устаноў, як-та: больніц, амбуляторый, фэльчарскіх пунктаў і г. д.

Новае Палажэньне, ускладаючы на сельскія саветы адказьнейшыя задачы ў розных галінах кіраўніцтва і значна пашыраючы правы сельскіх саветаў, падкрэсьлівае, што сельскі савет, як-бы ён добра не працаваў, сам ня зможа вырашыць усе гэтыя задачы. Гэта магчыма толькі пры актыўным удзеле ў працы саветаў самых шырокіх мас працоўных. Таму новы закон абавязвае сельскія саветы залучэньне шырокіх мас працоўных,—рабочых, батракоў і сялян-беднякоў і серадняков, у практычную работу лічыць сваёй важнейшай задачай. Палажэньне вызначае, як асноўныя формы залучэньня працоўных мас у вырашэньне пытаньняў дзяржаўнага і мясцовага будаўніцтва, скліканьне агульных сходаў выбаршчыкаў і ўцягненьне працоўных у работу сэкцый, якія павінны быць арганізаваны пры ўсіх сельскіх саветах.

У адносінах да агульных сельскіх сходаў за сельсаветамі захоўваецца кіруючая роля. Саветы склікаюць сельскія сходы, складаюць папярэдні парадак дню, адчыняюць сельскія сходы, зацьвярджаюць іх пастановы і ажыцьцяўляюць іх, аб чым потым паведамляюць адпаведныя сходы.

Другой формай уцягненьня працоўных у сацыялістычнае будаўніцтва зьяўляецца, як ужо сказана вышэй, уцягненьне іх у працу сэкцый сельсаветаў. Гэта форма зьяўляецца вельмі важнай тым, што гэта ўжо ёсьць уцягненьне ў практычную штодзенную працу саветаў і дзякуючы гэтаму робіць саветы сапраўды калектыўнымі масавымі органамі ўлады. Тут трэба падкрэсьліць, што сэкцыі саветаў зьяўляюцца ня толькі дапаможнымі органамі саветаў, але і органамі кантролю, паколькі сэкцыі маюць права ставіць на свае пасяджэньні даклады розных устаноў і сельскіх арганізацый аб становішчы іх работы, іх дзейнасьці, аб выкананьні імі дадзеных дырэктыў і г. д. Пры гэтым сельскія саветы абавязваюцца зьвярнуць асаблівую ўвагу на работу сярод жанчын-батрачак, бяднячак і актывістак-серадначак. Сельскія саветы павінны прымаць усе меры да разгортваньня сярод жанчын культурна-асьветнай і палітычнай работы, прыцягваючы іх да работы ў саветах, да актыўнага ўдзелу ў калгасным і іншым будаўніцтве.

Побач з гэтым, пры ўсіх сельскіх саветах павінны быць арганізаваны групы беднаты з членаў сельскага савету. На сходах груп

беднаты павінны ставіцца ўсе важнейшыя пытаньні работы сельскага савету з тым, каб групы беднаты зьяўляліся галоўнай апорай саветаў пры ажыцьцяўленьні імі ўсіх мерапрыемстваў.

Пры арганізацыі батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас сельскія саветы павінны накіроўваць гэтыя масы працоўных на актыўную барацьбу з кулацтвам, усямерна абмяжоўваючы ў яшчэ некалектывізаваных раёнах эксплёататарскія імкненьні кулацтва і дамагаючыся гаспадарчага выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў з тым, каб з пераходам данага раёну да суцэльнай калектывізацыі перайсьці да канчатковай ліквідацыі кулацтва, як клясы.

Усе члены сельскіх саветаў абавязваюцца прымаць самы актыўны ўдзел у штодзеннай рабоце саветаў і садзейнічаць вырашэньню стаячых перад сельскімі саветамі задач. Членаў сельскіх саветаў новае палажэньне пра сельскія саветы разглядае як перадавых работнікаў сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, разьвіцьця пралетарскай культуры і новага быту на вёсцы. Члены сельскіх саветаў абавязваюцца падтрымоўваць шчыльную сувязь з сваімі выбаршчыкам, і грамадзкімі арганізацыямі, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету. Тыя члены сельскіх саветаў, якія не пажадаюць выконваць ускладзеныя на іх абавязкі, або якія ня змогуць гэтага зрабіць, павінны рашуча адклікацца з сельскіх саветаў, і пытаньне аб адкліканьні ў гэтых выпадках павінны ставіць перад сходамі выбаршчыкаў сельскія саветы і асабліва групы беднаты.

Агульны лёзунг новага палажэньня—тварам да калгасаў, тварам да сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Сельскі савет ня толькі кіраўнік, але і творца новага жыцьця. Новае палажэньне дае гэтыя магчымасьці сельскім саветам. Сельсаветы павінны скарыстаць новы закон і стаць пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі сапраўднымі арганізатарамі актыўнасьці батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй БССР у справе ўздыму сельскай гаспадаркі і яе сацыялістычнай перабудовы.

Новае палажэньне пра сельскія саветы распаўсюджваецца на мястэчковыя саветы, а таксама і на пасялковы савет 1-й Дзяржаўнай Электрычнай Станцыі імя тав. Сталіна.

Для таго, каб гэтае палажэньне, якое мае на мэце ператварыць працу сельскіх саветаў і паставіць іх на новыя рэйкі працы па сацыялістычнаму будаўніцтву, дасягнула сваёй мэты, яно павінна быць шырока папулярызавана савецкім актывам сярод шырокіх мас працоўных вёскі і мястэчка нашай савецкай краіны.

А. Хацкевіч.

# Палажэньне пра сельскія саветы

У мэтах далейшага ўмацаваньня сельскіх саветаў, як органаў пралетарскай дыктатуры, як кіраўнікоў шырока разгорнутай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і зьвязанай з гэтым ліквідацыі кулацтва як клясы, а таксама як арганізатараў актыўнасьці батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас усіх нацыянальнасьцяй БССР у справе ўздыму сельскай гаспадаркі і яе сацыялістычнай рэканструкцыі. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе: паводле «Асноўных палажэньняў аб арганізацыі сельскіх саветаў у Саюзе ССР» ад 3 лютага 1930 г. зацьвердзіць наступнае новае палажэньне пра сельскія саветы.

## 1. Арганізацыя сельскіх саветаў

1. Сельскія саветы ўтвараюцца ў паселішчах сельскага тыпу (калгасных аб'яднаньнях, вёсках), або аб'яднаньнях дробных паселішчаў, прычым аб'яднаньне паселішчаў адным сельскім саветам павінна адпавядаць інтарэсам іх палітычнага, нацыянальнага, гаспадарчага і культурнага разьвіцьця.

Прынцыпы тэрытарыяльнай пабудовы сельскіх саветаў вызначаюцца асобным заканадаўствам.

2. У раёнах суцэльнай калектывізацыі пры аб'яднаньні некалькіх буйных паселішчаў у адзін калгас, арганізацыя сельскіх саветаў павінна ў асноўным супадаць з першастковымі ячэйкамі калектыўнай гаспадаркі (вытворчымі вучасткамі).

Устанаўленьне дакладных межаў сельскіх саветаў, а таксама прынцыпаў арганізацыйнай пабудовы калектыўных гаспадарак ускладаецца на акруговыя выканаўчыя камітэты з зацьверджаньнем іх пастаноў аб гэтым Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

Пры вызначэньні межаў сельскіх саветаў улічваецца: колькасьць насельніцтва, яго кампактнасьць, нацыянальны склад, стан шляхоў і сродкі сувязі.

3. Перанясеньне цэнтра сельскага савету з аднаго паселішча ў другое робіцца па пастанове раённага выканаўчага камітэту, зацьвярджаемай акруговым выканаўчым камітэтам.

4. Сельскі савет выбіраецца на адзін год у парадку і па нормах, вызначаных у Канстытуцыі БССР і ў заканадаўстве пра выбары ў саветы.

5. Асобныя дэпутаты сельскага савету выходзяць са складу савету:

а) па пастанове агульнага сходу выбаршчыкаў аб адкліканьні дэпутата;

б) па пастанове сельскага савету, у сувязі са стратай выбарчага права, паводле Канстытуцыі БССР і заканадаўства аб выбарах;

в) з прычыны выезда на сталае жыхарства ў іншыя мясцовасьці, аб чым дэпутат абавязан сваячасова паведаміць сельскі савет.

6. Выбаршчыкі маюць права адклікаць з саветаў выбраных імі дэпутатаў ва ўсякі час за:

а) невыкананьне наказа выбаршчыкаў;

б) адмаўленьне ад выкананьня даручэньняў савету;

в) сыстэматычнае ненаведваньне пасяджэньняў савету;

г) недапушчальныя для члена савету паводзіны;

д) па іншых важных прычынах.

Члены сельскага савету адклікаюцца і замест іх выбіраюцца новыя члены ў парадку, які ўстанаўляецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР.

7. Члены сельскага савету ня могуць бяз ведама і згоды выбаршчыкаў сельскага савету і раённага выканаўчага камітэту адмаўляцца ад выкананьня ўскладзеных на іх абавязкаў.

8. Замест выбыўшых паасобных членаў сельскага савету на адпаведных выбарчых вучастках выбіраюцца новыя члены савету.

Давыбары робяцца па пастанове пленуму сельскага савету.

9. У выпадку, калі будзе выкрыта поўная бязьдзейнасьць сельскага савету або скрыўленьні ім клясавай пралетарскай лініі ў выглядзе слабага кіраўніцтва сацыялістычнай перабудовай вёскі і зьвязанай з гэтым ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, а таксама ў выглядзе слабай работы па арганізацыі батрацтва і беднаты і г. д.—робяцца датэрміновыя перавыбары сельскага савету.

Роспуск і датэрміновыя перавыбары адбываюцца па пастанове раённага выканаўчага камітэту, з паведамленьнем аб гэтым акруговаму выканаўчаму камітэту.

10. Для ажыцьцяўленьня кантролю за фінансава-гаспадарчай дзейнасьцю і за пастаноўкай масавай работы сельскага савету адначасова з выбарамі апошняга і на той-жа тэрмін выбіраецца рэвізыйная камісія.

Рэвізыйная камісія ажыцьцяўляе свой кантроль бязупынна, падтрымліваючы шчыльную сувязь з выбаршчыкамі і ў выпадку патрэбы сваячасова паведамляючы выбаршчыкам аб недахопах у рабоце сельскага савету.

11. Для разгляду і вырашэньня маёмасных, працоўных і зямельных спрэчак, а таксама дробных крымінальных спраў і для ўзмацненьня рэвалюцыйнай законнасьці, пры сельскіх саветах арганізуюцца і дзейнічаюць, на падставе асобнага заканадаўства, сельскія суды.

12. Сельскія саветы карыстаюцца правамі юрыдычнай асобы.

13. Сельскія саветы маюць гэрбавую пячатку.

## 2. Агульная кампэтэнцыя сельскіх саветаў

14. Сельскі савет зьяўляецца вышэйшым органам улады ў межах яго тэрыторыі. Як орган пралетарскай дыктатуры ў вёсцы, сельскі савет арганізуе актыўны ўдзел працоўных мас у дзяржаўным кіраўніцтве і ў сацыялістычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

15. Сельскі савет вырашае ўсе пытаньні мясцовага значэньня і абмяркоўвае пытаньні агульна-саюзнага, рэспубліканскага, акруговага і раённага значэньня.

16. Сельскі савет у сваёй дзейнасьці падпарадкоўваецца раённаму выканаўчаму камітэту. Калі загад раённага выканаўчага камітэту, па думцы сельскага савету, зьяўляецца незаконным або нямэтазгодным, сельскі савет, не прыпыняючы выкананьня гэтага загаду, мае права абскардзіць яго ў акруговы выканаўчы камітэт з паведамленьнем аб гэтым раённаму выканаўчаму камітэту.

17. Сельскі савет сочыць за выкананьнем на яго тэрыторыі ўсімі грамадзянамі і службовымі асобамі загадаў і пастаноў савецкай улады, змагаючыся са спробамі супроцьдзейнічаць мерапрыемствам улады, а таксама змагаючыся з усімі скрыўленьнямі клясавай пралетарскай лініі ў прыстасоўваньні законаў і пры ажыцьцяўленьні розных мерапрыемстваў савецкай улады.

У сучасных умовах абвастрэньня клясавай барацьбы сельскія саветы павінны асабліва рашуча спыняць і ліквідаваць антысавецкую барацьбу кулацкіх і нэпманскіх элемэнтаў.

18. Сельскі савет арганізуе батрацкія, бядняцкія і серадняцкія масы для барацьбы з кулацтвам, усямерна абмяжоўваючы ў яшчэ некалектывізаваных раёнах яго эксплёататарскія імкненьні і дамагаючыся гаспадарчага выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў з тым, каб з пераходам паселішчаў данага раёну да суцэльнай калектывізацыі перайсьці да канчатковай ліквідацыі кулацтва.

19. Сельскі савет сочыць за сваячасовым выкананьнем калектыўнымі гаспадаркамі і некалектывізаванымі яшчэ сялянскімі гаспадаркамі, а таксама рознымі грамадзкімі арганізацыямі і прадпрыемствамі ўсіх абавязкаў перад дзяржавай па ўзносах сельска-гаспадарчага падатку, пагашэньня крэдытаў, здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, па выкананьні дагавароў па кантрактацыі, выкананьню вытворчых плянаў і заданьняў, асабліва пры правядзеньні хлебазагатоўчых і пасеўных кампаній, а таксама наглядае за правільным і мэтазгодным скарыстаньнем інвэнтару ў поўнай адпаведнасьці з задачамі сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

## 3. Кампэтэнцыя сельскіх саветаў па паасобных галінах кіраўніцтва

### А. У галіне арганізацыйнай

20. У галіне арганізацыйнай сельскія саветы:

а) арганізоўваюць сельскія выбарчыя камісіі, устанаўляюць дні выбараў па паасобных выбарчых вучастках, намячаюць памяшканьні для выбарчых сходаў і забясьпечваюць нармальны ход выбарчай кампаніі;

б) складаюць сьпісы выбаршчыкаў і сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых праваў;

в) выбіраюць дэпутатаў на раённыя зьезды саветаў;

г) выбіраюць з ліку членаў сельскага савету прэзыдыум савету, старшыню, намесьніка старшыні і сэкратара сельскага савету і ўпаўнаважаных—сельскага савету і назначаюць службовых асоб, якія сельскаму савету падпарадкаваны;

д) у выпадку неабходнасьці, па сваёй ініцыятыве, або па прапанове вышэйшых органаў улады перавыбіраюць да тэрміну прэзыдыум сельскага савету, або паасобных членаў прэзыдыуму, з паведамленьнем аб гэтым раённаму выканаўчаму камітэту;

е) арганізуюць сэкцыі сельскага савету, разьмяркоўваюць паміж імі работу, разьмяркоўваюць членаў савету па сэкцыях, зацьвярджаюць выбраных старшынь і кіруюць работай сэкцый;

ж) кіруюць дзейнасьцю ўстаноў і прадпрыемстваў сельскага значэньня;

з) кіруюць перавыбарамі народных засядацеляў;

і) арганізуюць выбары сельскіх судоў і ў паказаных у законе выпадках касуюць іх, выбіраюць старшынь сельскіх судоў і іх намесьнікаў;

к) выбіраюць упаўнаважаных па статыстыцы;

л) кантралююць, шляхам праверкі і заслухоўваньня дакладаў непадпарадкаваныя ім дзяржаўныя і каапэрацыйныя

Ўстановы і прадпрыемствы, што знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету, а таксама іх прадстаўнікоў бяз права ўмешваньня ў апэрацыйную дзейнасьць гэтых устаноў, прадпрыемстваў і асоб;

м) склікаюць сельскія сходы выбаршчыкаў для справаздачы аб дзейнасьці сельскіх саветаў, для залучэньня працоўных мас у практычную работу саветаў, для абвяшчэньня законаў і загадаў Савецкай улады і для абмеркаваньня або вырашэньня розных пытаньняў;

н) склікаюць пленумы сельскіх саветаў як у цэнтры савету, гэтак і ў іншых населеных пунктах савету;

о) забясьпечваюць шырокае ажыцьцяўленьне на тэрыторыі сельскага савету права крытыкі;

п) забясьпечваюць спрыяючыя ўмовы работы выбарных работніц, бяднячак і сераднячак сялянак, кіруюць іх работай і падрыхтоўваюць з іх актыўных работнікаў саветаў;

р) кіруюць дзейнасьцю сялянскіх камітэтаў узаемадапамогі і аказваюць садзейнічаньне іншым савецкім грамадзкім арганізацыям;

с) падаюць раённым выканаўчым камітэтам справаздачы аб сваёй дзейнасьці;

т) склікаюць нарады мясцовых работнікаў для кіраўніцтва і інструктаваньня.

## Б. У галіне адміністрацыйнай

21. У галіне адміністрацыйнай сельскія саветы:

а) выдаюць абавязковыя пастановы, разглядаюць і вырашаюць справы аб парушэньні абавязковых пастаноў, як сваіх, гэтак і акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў і накладваюць на вінаватых пакараньні, паводле існуючага заканадаўства;

б) прыцягваюць насельніцтва да працоўнай, транспартнай і іншых павіннасьцяй, паводле існуючага заканадаўства;

в) выконваюць судовыя рашэньні, а таксама спаганяюць штрафы, якія накладзены ў адміністрацыйным або судовым парадку паводле існуючага заканадаўства;

г) падаюць іскі аб скасаваньні кабальных дагавароў, якія будуць выкрыты сельскімі саветамі, прыцягваюць вінОўных у закабаленьні працоўных, асабліва батрацтва і беднаты да адказнасьці, а таксама падаюць іскі і выступаюць у судзе ў абарону праў і інтарэсаў ваеннаслужачых і іх сем'яў, падаюць іскі аб скасаваньні дагавароў, накіраваных на шкоду інтарэсам працоўных і дзяржавы;

д) прымаюць заявы грамадзян і вырашаюць іх, калі гэта датычыцца да кампэтэнцыі сельскіх саветаў або накіроўваюць іх у адпаведныя ўстановы і арганізацыі са сваім заключэньнем;

е) выдаюць пасьведчаньні асобы савецкім грамадзянам, якія жывуць на тэрыторыі сельскага савету;

ж) выконваюць натарыяльныя функцыі ў межах, вызначаных у адпаведным заканадаўстве;

з) клапоцяцца аб арганізацыі паштовай і тэлефоннай сувязі і аказваюць у гэтай справе адпаведным органам усякае садзейнічаньне;

і) рэгіструюць акты грамадзянскага стану;

к) вядуць падворныя кнігі і вучот насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі сельскага савету;

л) складаюць сьпісы сельскіх выканаўцаў у парадку чарговасьці і кіруюць іх дзейнасьцю;

м) прымаюць меры да аховы рэвалюцыйнага парадку, у адпаведнасьці з існуючым заканадаўствам;

н) накладаюць дысцыплінарныя пакараньні на асоб, якія выбіраюцца, назначаюцца або зацьвярджаюцца сельскімі саветамі;

о) ажыцьцяўляюць нагляд за выкананьнем законаў аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы;

п) выдаюць дазволы на рэлігійныя працэсіі або забараняюць іх па санітарных і іншых прычынах, прычым хадайнічаньні аб дазволе рэлігійных працэсій падаюцца за тры дні да наладжваньня гэтых працэсій;

р) нагляд за выкананьнем устаноўленых правіл аб таварыствах, сходах і публічных відовішчах;

с) ажыцьцяўляюць нагляд за рыначным і кірмашным гандлем;

т) вядуць барацьбу са злачынствамі (самагонакурэньнем, канакрадзтвам, хуліганствам, прытонамі карцёжнай гульні і іншымі злачынствамі), затрымоўваюць асоб, якія падлягаюць арышту, на падставе існуючага заканадаўства і накіроўваюць іх у раённую міліцыю;

у) прымаюць меры да аховы ад злачыннага псаваньня лясоў, ссыпных пунктаў, чыгунак, тэлефонаў, тэлеграфаў і электраправоднай сеткі, ваенных лягераў і аэрадромаў, што знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету;

ф) выконваюць загады вышэйстаячых органаў улады і паведамляюць раённы выканаўчы камітэт аб выпадках супраціўленьня выкананьню гэтых загадаў;

х) дапамагаюць прадстаўнікам вышэйшых органаў улады ў выкананьні імі ўскладзеных на іх службовых абавязкаў;

ц) даюць назвы новым паселішчам, якія арганізуюцца на тэрыторыі сельскага савету і падаюць свае пастановы аб гэтым на зацьверджаньне раённага выканаўчага камітэту;

ч) арганізуюць на тэрыторыі саветаў прымусовыя работы і наглядаюць за выкананьнем пастаноў аб прымусовых работах.

## В. У галіне сельскай і лясной гаспадаркі

22. Асноўнай задачай сельскіх саветаў у галіне сельскай гаспадаркі зьяўляецца яе сацыялістычная перабудова шляхам калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і арганізацыі іншых каапэрацыйных аб'яднаньняў.

23. У вёсках тых раёнаў, якія яшчэ не ахоплены суцэльнай калектывізацыяй, сельскія саветы клапацяцца аб усямерным уздыме індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, прымаючы меры арганізацыі найбольш простых каапэрацыйных аб'яднаньняў, правядзеньня аграмінімуму, пашырэньня пасяўной плошчы і г. д., накіроўваючы разьвіцьцё гэтых індывідуальных гаспадарак у бок іх хутчэйшай калектывізацыі і разгортваньня вакол задач калектывізацыі вялікай растлумачальнай і падрыхтоўчай работы.

24. Для ажыцьцяўленьня асноўных задач у галіне сельскай гаспадаркі паказаных у арт. арт. 22 і 23 гэтага палажэньня, а таксама ў галіне лясной гаспадаркі сельскія саветы:

а) арганізуюць і ўсімі мерамі садзейнічаюць разьвіцьцю калектыўных гаспадарак, вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньняў і іншых форм аграмаджанай сельскай гаспадаркі;

б) пэрыядычна заслухоўваюць справаздачы аб дзейнасьці ўсіх установ і прадпрыемстваў, якія прымаюць удзел у калгасным будаўніцтве, а таксама саміх калгасаў, што знаходзяцца на тэрыторыі сельскіх саветаў;

в) разглядаюць і зацьвярджаюць пляны калектыўных гаспадарак і іншых каапэрацыйных аб'яднаньняў і, у выпадку неадпаведнасьці гэтых плянаў агульна-дзяржаўным плянам і вытворчым заданьням, даюць адпаведныя паказаньні аб пераапрацоўцы іх;

г) кіруюць правядзеньнем пасеўных кампаній і клапоцяцца аб усямерным павышэньні ўраджайнасьці, аб пашырэньні пасеўнай плошчы, аб разьвіцьці жывёлагадоўлі як у калектыўных гаспадарках, гэтак і ў некалектывізаваных яшчэ сялянскіх гаспадарках;

д) наглядаюць за правільным і мэтазгодным скарыстоўваньнем зямель і ўгодзьдзяў, як калектыўнымі гаспадаркамі, гэтак і індывідуальнымі гаспадаркамі, і ў выпадку неабходнасьці, ставяць пытаньне аб адабраньні зямель і ўгодзьдзяў ад арганізацый і асоб, парушаючых законы аб нацыяналізацыі зямлі і ня выконваючых вытворчых плянаў і заданьняў, а таксама ня выконваючых сваіх абавязкаў перад дзяржавай;

е) дапамагаюць разьвіцьцю і ўзмацненьню існуючых на тэрыторыі сельсаветаў савецкіх гаспадарак (зернавых, жывёлагадоўчых, ільнаводчых і г. д.) і іншых дзяржаўных сацыялістычных прадпрыемстваў;

ж) садзейнічаюць увядзеньню палепшаных спосабаў вядзеньня сельскай гаспадаркі (машынная апрацоўка палёў, шматпольле, палепшаны папар і інш.).

з) арганізуюць правядзеньне агранамічнага зоотэхнічнага і вэтэрынарнага мінімуму і наглядаюць за яго выкананьнем;

і) наглядаюць за законным скарыстоўваньнем зямельных вучасткаў, вядуць барацьбу з закабаленьнем сельскай беднаты капіталістычнымі элемэнтамі вёскі—скрытай арэндай і іншымі парушэньнямі закону аб нацыяналізацыі зямлі;

к) рэгіструюць склад сельскіх двароў і зьмены ў гэтым складзе; у раёнах нясуцэльнай калектывізацыі рэгіструюць дагавары аб працоўнай арэндзе зямлі; даюць дазвол на продаж і заставу будынкаў, што знаходзяцца на землях працоўнага карыстаньня і рэгіструюць дагавары аб продажы і пакіданьні гэтых будынкаў;

л) садзейнічаюць правядзеньню кантрактацыі, узмацненьню кармавой базы (праз арганізацыю сіласаў, пашырэньне плошчы пад кармавыя травы і карняплоды, штучныя выпасы і інш.);

м) аказваюць усялякую дапамогу беднаце, уцягваючы яе ў першую чаргу ў каапэрацыю і калектыўныя гаспадаркі і аказваюць дапамогу ўздыму гаспадарак маламоцных пластоў працоўнага сялянства;

н) садзейнічаюць разьвіцьцю таварнай часткі сельскай гаспадаркі (тэхнічныя культуры, жывёлагадоўля, прамысловыя садоўніцтвы і інш.) і прымаюць удзел у арганізацыі прадпрыемстваў па пераапрацоўцы прадуктаў сельскай гаспадаркі;

о) арганізуюць і прымаюць удзел у арганізацыі пракатных, злучных, зернеачышчальных, вэтэрынарных і іншых пунктаў, а таксама рамонтных майстэрняў і наглядаюць за іх дзейнасьцю;

п) садзейнічаюць агранамічнаму, вэтэрынарнаму, землеўпарадкаўчаму, лясному і культур- тэхнічнаму пэрсоналу ў іх рабоце;

р) даюць заключэньні аб ацэнцы пабудоў і гаспадарчых палепшаньняў пры адчужэньні зямель для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб;

с) выконваюць пры правядзеньні землеўпарадкаваньня тыя работы, якія будуць устаноўлены Народным Камісарыятам Земляробства і аказваюць садзейнічаньне ў справе правядзеньня землеўпарадкаваньня, а таксама выконваюць тыя пастановы па зямельных справах, якія не патрабуюць каморніцка-тэхнічнага выкананьня ў натуры;

т) садзейнічаюць правядзеньню мэліарацыі і палепшаньню воднай гаспадаркі і ажыцьцяўляюць нагляд за захоўнасьцю мэліарацыйных пабудоў і межавых знакаў на тэрыторыі савета;

у) вырашаюць пытаньне аб перамене домагаспадара і падаюць іскі аб адабраньні зямель працоўнага карыстаньня ў выпадку іх няправільнага скарыстоўваньня;

ф) кіруюць лясамі мясцовага значэньня паводле палажэньня пра іх, робяць і дапамагаюць рабіць новыя лясныя насаджэньні і ўмацаваньне пяскоў; назіраюць за ахавай лясоў, садзейнічаюць барацьбе з лесапарубшчыкамі, арганізуюць дапамогу для тушэньня лясных пажараў;

х) разьмяркоўваюць па ўзгадненьні з лясьнічымі лясныя дзялянкі для пасьбы жывёлы ў лясох дзяржаўнага значэньня і складаюць сьпісы гаспадарак, якія маюць права пасьці жывёлу ў гэтых лясох з паказаньнем ліку жывёл у гаспадарках;

ц) разьмяркоўваюць сярод насельніцтва драўніну і назіраюць за правільным і сваячасовым выкананьнем правілаў аб водпуску лесу;

ч) прымаюць удзел у разьмеркаваньні крэдытаў пры землеўпарадкаваньні, мэліарацыйным, торпавым і іншым таварыствам і наглядаюць за правільным скарыстаньнем крэдытаў, а таксама даюць заключэньні па хадайніцтвах калгасаў аб дачы ім крэдытаў, інвэнтару і г. д.;

ш) садзейнічаюць правядзенью вэтэрынарна-лекавых і супроць-эпізоотычных мерапрыемстваў і адводзяць месцы для закопваньня трупаў здохшай і забітай хворай жывёлы і птушак;

э) наглядаюць за выкананьнем правілаў і тэрмінаў паляваньня і рыбалоўства;

ю) прымаюць заяўкі аб перасяленьні, вядуць першапачатковы вучот перасяленцаў і тэхнічнае афармленьне хадакоў або дружыньнікаў;

я) зьбіраюць розныя статыстычныя весткі ў галіне сельскай гаспадаркі, у адпаведнасьці з існуючым на гэты конт заканадаўствам.

## Г. У галіне фінансава-бюджэтнай і дзяржаўнага страхаваньня

25. У мэтах узмацненьня сацыялістычнай, гаспадарчай і культурнай дзейнасьці сельскіх саветаў, а таксама для ўзмацненьня ролі сельскіх саветаў у сацыялістычнай перабудове быту шырокіх мас працоўных ва ўсіх сельскіх саветах утвараюцца самастойныя бюджэты.

26. Бюджэты сельскіх саветаў павінны абслугоўваць адміністрацыйныя, гаспадарча-грамадзкія і культурныя патрэбы мясцовага значэньня. На сельскія бюджэты адносяцца выдаткі па ўтрыманьню сельскіх саветаў, мясцовых установ народнай асьветы і аховы здароўя, выдаткі на пэнсыяніраваньне, дарожную справу, сувязь, дабрабыт насельных пунктаў, а таксама выдаткі, якія зьвязаны з разьвіцьцём сельскай гаспадаркі і ўтрыманьнем маёмасьці і прадпрыемстваў, што знаходзяцца пад загадам сельскіх саветаў.

27. У прыбытковую частку сельскіх бюджэтаў уключаюцца паступленьні ад наступных крыніц:

а) непадатковыя прыбыткі ад маемасьці і прадпрыемстваў мясцовага значэньня, што знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету;

б) мясцовыя падаткі і зборы, якія бяруцца на тэрыторыі сельскага савету;

в) адлічэньні ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку, які бярэцца на тэрыторыі сельскага савету, у разьмерах, вызначаемых асобнымі законамі, але ня менш 30 проц. паступленьняў гэтага падатку;

г) адлічэньні ад дзяржаўных прыбыткаў, прычым разьмеры і парадак адлічэньняў ад дзяржаўных прыбыткаў вызначаюцца асобнымі законамі;

д) адлічэньні ад рэалізаваных на тэрыторыі савету пазык у разьмерах, вызначаемых для кожнай пазыкі асобна;

е) сродкі, якія ўтвараюцца калгасамі ў выглядзе фондаў палепшаньня бытавых і культурна-асьветных установ;

ж) адлічэньні і мэтавыя прыбыткі, якія перадаюцца ў бюджэт сельскага савету пастановамі калгасаў;

з) сродкі самаабкладаньня, якія павінны выдаткоўвацца на тыя патрэбы, што вызначаюцца ў пастановах агульных сходаў.

28. Сельскія саветы:

а) складаюць і разглядаюць сельскія бюджэты, падаюць іх у раённы выканаўчы камітэт; выконваюць зацьверджаныя сельскія бюджэты, спаганяюць мясцовыя падаткі і зборы і непадатковыя даходы і вядуць рахункаводзтва і справаздачнасьць па іх; перамяшчаюць крэдыты ў межах аднаго параграфу;

б) праводзяць вучот аб'ектаў абкладаньня адзіным сельска-гаспадарчым падаткам прымаюць сельска-гаспадарчы падатак, а таксама спаганяюць пеню і штраф за несваячасовае ўнясеньне сельска-гаспадарчага падатку;

в) выяўляюць выпадкі ўтойваньня аб'ектаў абкладаньня і паведамляюць аб іх раённаму выканаўчаму камітэту;

г) складаюць сьпісы бяднейшых гаспадарак, вызваляемых ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку і выяўляюць гаспадаркі, якія падлягаюць абкладаньню ў індывідуальным парадку;

д) удзельнічаюць у распрацоўцы нормы даходаў ад крыніц, абкладаемых адзіным сельска-гаспадарчым падаткам, для паасобных паселішчаў данага сельскага савету;

ж) складаюць акты пра страты ад стыхійных бядот і перадаюць іх са сваім заключэньнем у раённую падатковую камісію для дачы ільгот па адзіным сельска-гаспадарчым падатку;

з) разглядаюць у якасьці першай інстанцыі скаргі і заявы паасобных грамадзян на няправільны вучот аб'ектаў адзінага сельска-гаспадарчага падатку і на яго вылічэньне, а таксама па пытаньнях ільгот;

і) вытвараюць па даручэньні вышэйстаячых органаў вучот і абсьледваньне аб'ектаў абкладаньня дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі, а таксама крыніц непадатковых даходаў;

к) вядуць падлік крыніц падатковага абкладаньня; садзейнічаюць і спаганяюць дзяржаўныя падаткі і зборы;

л) не дапушчаюць устанаўленьня нявызначаных законам падаткаў і збораў;

м) праводзяць на сельскіх сходах, у адпаведнасьці з існуючым законадаўствам, самаабкладаньне насельніцтва; робяць раскладку, прынятай на сходах агульнай сумы самаабкладаньня паміж паасобнымі гаспадаркамі і грамадзянамі; зьмяншаюць або зьнімаюць налічаныя сумы з паасобных заняпалых гаспадарак; дазваляюць асобным гаспадаркам і грамадзянам замену вызначанай агульным сходам формы самаабкладаньня іншай формай; спаганяюць самаабкладаньне, выдаткоўваюць сабраныя сумы на мэты, вызначаныя агульнымі сельскімі сходамі і даюць апошнім справаздачы аб выдаткаваньні сабраных сум;

н) садзейнічаюць ашчаднай справе, распаўсюджваюць дзяржаўныя пазыкі, а таксама праводзяць шырокую растлумачальную работу аб іх значэньні і садзейнічаюць трымацелям пазык у правядзеньні устаноўленых законамі апэрацый з пазыкамі;

о) перадаюць насельніцтву акладныя страхавыя лісты, прымаюць плацяжы па абавязковым акладным страхаваньні;

п) праводзяць вучот падлягаемых абавязковаму акладному страхаваньню сельска-гаспадарчай жывёлы і плошчы пад сельска-гаспадарчымі расьліннымі культурамі;

р) вызначаюць адпаведным гаспадаркам ільготы па абавязковым акладным страхаваньні і складаюць сьпісы асоб, за якімі лічыцца безнадзейная да паступленьня нядоімка акладных страхавых плацяжоў;

с) удзельнічаюць у ацэнцы будынкаў страхавымі агентамі і ў ацэнцы страт ад падзяжу жывёлы, пажараў і іншых стыхійных бядот;

т) даюць дазволы на ўбой застрахаванай жывёлы ў выпадках, паказаных у правілах пра страхаваньне, і складаюць акты аб убоі ці падзяжу застрахаванай жывёлы і правяраюць колькасьць жывёлы ў пацярпеўшых гаспадарках.

## Д. У галіне мясцовай гаспадаркі, каапэрацыі і гандлю

**29.** У галіне мясцовай гаспадаркі, каапэрацыі і гандлю сельскія саветы:

а) ведаюць маемасьцю і прадпрыемствамі сельскага значэньня, эксплёатуюць іх непасрэдна, альбо шляхам здачы іх у арэнду, паводле чыннага законадаўства;

б) арганізуюць новыя прадпрыемствы, як вытворчага, гэтак і гандлёвага характару, узгадняючы іх арганізацыю з плянам разьвіцьця раённай прамысловасьці;

в) складаюць інвэнтарны вопіс маемасьці, якая знаходзіцца ў веданьні сельскага савету;

г) кіруюць прадпрыемствамі, падпарадкаванымі вышэйстаячым органам, калі сельскія саветы будуць упаўнаважаны на гэта адпаведнымі органамі;

д) наглядаюць за дзейнасьцю ўсіх іншых прадпрыемстваў дзяржаўнай прамысловасьці мясцовага значэньня, у тым ліку прадпрыемстваў саматужнай і прамысловай каапэрацыі, ня ўмешваючыся ў іх апэрацыйную дзейнасьць і паведамляюць аб усіх заўважаных няправільнасьцях адпаведным органам, прычым сельскія саветы маюць права патрабаваньня ад загадчыкаў маемасьці і прадпрыемства мясцовага значэньня, якія не знаходзяцца ў веданьні сельскага савету, падачы дакладаў аб становішчы і рабоце гэтых прадпрыемстваў;

е) трымаюць у парадку дарогі, масты, пераправы, гаці мясцовага значэньня, а таксама наглядаюць за трыманьнем у парадку дарог, мастоў і г. д., што маюць раённае, акруговае або рэспубліканскае значэньне;

ж) назіраюць за выпаўненьнем будаўнічых і пажарных правіл;

з) ажыцьцяўляюць нагляд за правільным рэсплянаваньнем будынкаў ва ўноў створаных пры земляўпарадкаваньні зямельных аб'яднаньняў;

і) арганізуюць супроцьпажарныя мерапрыемствы;

к) садзейнічаюць усім формам сельскага будаўніцтва ў паасобку разьвіцьцю агнятрывалага будаўніцтва на вёсцы;

л) арганізуюць ахову грамадзкіх пабудоў і будынкаў ад псаваньня і руйнаваньня;

м) праводзяць мерапрыемствы па ўпарадкаваньню вёсак;

н) ажыцьцяўляюць нагляд за выкананьнем і праверку выкананьня арандатарамі дагавораў аб арэндзе маемасьці раённага выканаўчага камітэту (сады, сенажаці, будынкі і інш.), прычым раённыя выканаўчыя камітэты копіі дагавору ў такім выпадку пасылаюць сельскім саветам;

о) наглядаюць за мерапрыемствамі савецкіх і гаспадарчых органаў, якія ажыцьцяўляюцца на тэрыторыі сельскіх саветаў, у галіне: будаваньня дзяржаўных будынкаў, дарожных пабудоў, будаваньня і эксплёатацыі агрыкультурных, асьветных і інш. прадпрыемстваў, даводзячы аб заўважаных ненармальнасьцях да ведама раённага выканаўчага камітэту і ўдзельнічаюць паводле яго дырэктыў у ліквідацыі заўважаных недахопаў:

п) аказваюць садзейнічаньне каапэрацыі, дапамагаючы ёй у справе найбольш шырокага каапэраваньня насельніцтва;

р) прыцягваюць да адказнасьці асоб, якія гандлююць, ня маючы на гэта права;

с) не дапушчаюць гандлю агністрэльнымі прыпасамі і сьпіртусовымі напіткамі без захаваньня існуючых правіл.

30. Сельскія саветы маюць права:

а) адчужаць маемасьць, якая знаходзіцца пад іх ведамам, а таксама набываць патрэбную маемасьць паводле існуючых законаў і заключаюць для гэтага дагаворы;

б) здаваць у арэнду ўсякую маёмасьць, якая знаходзіцца пад загадам саветаў і іх устаноў, а таксама арэндаваць маёмасьць у патрэбных выпадках і заключаць аб гэтым дагаворы;

в) здаваць вучасткі зямлі пад забудоўку;

г) заключаць дагаворы на здачу работ па рамонту, пабудоўцы і абсталяваньні ўсякіх будынкаў, прадпрыемстваў камунальнага характару і дарожных пабудоў;

д) заключаць дагаворы аб здачы на захаваньне ў элеватарах і ў падобных да іх установах прадуктаў вытворчасьці прадпрыемстваў, якія знаходзяцца пад загадамі саветаў;

е) страхаваць усякую належачую ім маемасьць;

ж) наймаць і звальняць рабочых і служачых, заключаць з імі калектыўныя дагаворы, а таксама заключаць дагаворы з арцелямі рабочых і саматужнікаў і паасобнымі рабочымі для выкананьня імі заказаў са свайго матар'ялу або з матар'ялу саветаў;

з) уваходзіць пайшчыкамі ў каапэрацыйныя ўстановы, удзельнічаць у якасьці ўкладчыкаў ва ўсіх таварыствах, з папярэдняга дазволу на гэта раённых выканаўчых камітэтаў;

і) зьмяшчаць грошы ў касы ашчаднасьці, у дзяржаўныя, каапэрацыйныя і крэдытныя ўстановы, адчыняць у іх бягучыя рахункі, ўносіць тэрміновыя ўклады;

к) заключаць каротка-тэрміновыя пазычкі ў дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадзкіх установах (банкаўскіх і інш.) у межах існуючага законадаўства;

л) афармляць у натарыяльным парадку ў паказаных законам выпадках тыя дзеяньні, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня вызначаных у гэтым артыкуле праў;

м) выступаць у судзе ў якасьці істца, адказчыка і трэцяй асобы для абароны інтарэсаў савету і падпарадкаваных яму ўстаноў, а таксама выдаваць судовыя і іншыя спэцыяльныя даверанасьці.

## Е. У галіне працы

31. У галіне працы сельскія саветы:

а) наглядаюць за выкананьнем калектыўнымі гаспадаркамі, дзяржаўнымі, грамадзкімі і прыватнымі прадпрыемствамі і прыватнымі асобамі законаў і правілаў аб ахове працы, аб заработнай плаце, аб сацыяльным страхаваньні, а таксама калектыўных і працоўных дагавароў і г. д. і ў выпадку выкрыцьця злачынстваў або невыкананьня законаў аб працы—прыцягваюць вінаватых да адказнасьці;

б) наглядаюць за правільным скарыстаньнем рабочай сілы і агра-тэхнічных кадраў, а таксама за пастаноўкай на належную вышыню дысцыпліны працы ў калектыўных і савецкіх гаспадарках;

в) вядуць вучот гаспадарак, якія ўжываюць наёмную працу ў разьмерах, што пашыраюць іх за межы працоўных;

г) праводзяць вучот батракоў і вольнай рабочай сілы ў вёсцы;

д) рэгіструюць працоўныя дагаворы па найму рабочай сілы ў сельскай гаспадарцы, а таксама па найму пастухоў і з вучнямі;

е) садзейнічаюць правядзеньню вярбоўкі рабочай сілы ў вёсцы на падставе існуючых правілаў і наглядаюць за гэтай вярбоўкай;

ж) інфармуюць насельніцтва аб мясцовасьцях, дзе патрэбна рабочая сіла на падставе даных, што падаюць органы Народнага Камісарыяту працы;

з) садзейнічаюць прафэсыянальным арганізацыям у іх дзейнасьці.

## Ж. У галіне ваеннай

32. У галіне ваеннай сельскія саветы:

а) аказваюць усялякае садзейнічаньне павышэньню абароназдольнасьці Рэспублікі, дапамагаючы разьвіцьцю Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, паветраных сіл, хэмічнай абароны і г. д. у паасобку. Шляхам залучэньня ў гэту работу савецкай грамадзкасьці і садзейнічаньне разьвіцьцю адпаведных грамадзкіх арганізацый (Асо-Авіяхім і інш.);

б) наглядаюць за яўкай на абавязковую ваенную службу насельніцтва і змагаюцца з дэзэртырствам;

в) наглядаюць за вучотам ваенна-абавязаных, якія пазбаўлены выбарчых праву і падлягаюць залічэньню ў тылавое апалчэньне, а таксама наглядаюць за не-

дапушчэньнем у Чырвоную Армію кляса-ва-варожых элемэнтаў;

г) садзейнічаюць органам Народнага Камісарыяту ваенных і марскіх спраў пры правядзеньні імі розная роду вучотаў, перавучотаў і перапісаў, дапрызыўнай і іншых ваенных мерапрыемстваў;

д) ажыццяўляюць загады аб ваенным навучаньні;

е) даюць памяшканьні для расквартэраваньня дапрызыўнікоў на час праходжаньня імі дапрызыўнай падрыхтоўкі, а таксама для расквартэраваньня праходзячых ваенных часьцей і ваенных установ.

## 3. У галіне сацыяльна-культурнай

33. У галіне сацыяльна-культурнай сельскія саветы:

а) праводзяць мерапрыемствы, накіраваныя да павышэньня культурнага і палітычнага ўзроўню сельскага насельніцтва і да ліквідацыі няпісьменнасьці і, у адпаведнасьці з нацыянальнай палітыкай савецкай улады, забясьпечваюць здавальненьне культурных патрэб нацыянальных меншасьцяй:

б) прымаюць меры да правядзеньня ўсеагульнага абавязковага навучаньня;

в) ведаюць усёй сеткай культурна-асьветных установ, якія знаходзяцца на сельскім бюджэце і маюць права ў межах, зацьверджаных сетак, адчыняць хаты-чытальні, клюбы, бібліатэкі, народныя дамы і г д.

г) прымаюць меры да разьвіцьця тэатральнай, кіно-тэатральнай і радыё-вяшчальнай справы;

д) прымаюць меры да распаўсюджваньня сярод насельніцтва газэт, часопісаў, кніг і інш., а таксама садзейнічаюць сельскім карэспандэнтам;

е) прымаюць меры да прыцягненьня школ у культурна-асьветную работу сярод насельніцтва, заслухоўваюць даклады аб дзейнасьці і становішчы школ, культурна-асьветных установ і прымаюць меры да палепшаньня іх становішча;

ж) наглядаюць за дзейнасьцю і садзейнічаюць рабоце ўсіх культурна-асьветных установ, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету;

з) прымаюць меры да пабудовы будынкаў для школ і іншых культурна-асьветных установ, забясьпечваюць школы і культурна-асьветныя ўстановы неабходнымі будынкамі і зямельнымі вучасткамі; наглядаюць за правільным скарыстаньнем школьных будынкаў, зямель, гароду, садоў; арганізуюць ахову помнікаў культуры і прыроды мясцовага значэньня;

і) прымаюць меры да большага ахопу школай дзяцей беднаты, для чаго арганізуюць матар'яльную і іншую дапамогу дзецям беднаты для дачы ім магчымасьці наведваць школы;

к) наглядаюць за выкананьнем калектывамі або паасобнымі сялянамі абавязкаў у адносінах да выхаванцаў, узятых па спэцыяльных дагаварах;

л) прымаюць меры да забясьпечаньня настаўнікаў сельскіх школ, дактароў і іншага кваліфікаванага мэдпэрсоналу, вэтэрынараў, аграномаў, каморнікаў кватэрамі ў камунальным абслугоўваньні, згодна чыннаму заканадаўству;

м) арганізуюць і садзейнічаюць арганізацыі сельскіх мэдыка-санітарных установ, як: больніц, амбуляторый, фэльчарскіх пунктаў і г. д.;

н) прымаюць меры да змаганьня з хваробамі і эпідэміямі, а таксама папярэджваюць іх распаўсюджваньне, аказваючы ўсякае садзейнічаньне ў гэтай справе мэдычнаму і вэтэрынарнаму пэрсоналу;

о) кіруюць будаўніцтвам, якое разгортваецца ў колгасах, жылішч розных гаспадарчых пабудоў, школ, клюбаў, больніц і г. д.;

п) клапоцяцца аб аздараўленьні калгасаў і паасобных паселішчаў, шляхам арганізацыі і правядзеньня санітарна-прафілактычных мерапрыемстваў;

р) прымаюць меры да разьвіцьця фізычнай культуры і стралковага спорту;

с) клапоцяцца аб арганізацыі аховы мацярынства і младзенства і прымаюць меры да арганізацыі акушорскай дапамогі;

т) садзейнічаюць пабудове грамадзкіх і хатніх лазьняў і пральняў; грамадзкіх сталовак, ясель і г. д. і кіруюць пастаноўкай іх работы;

у) наглядаюць за захаваньнем санітарных правіл пры пабудове новых будынкаў, а таксама пры пляніроўцы паселішчаў; наглядаюць за пабудовай і становішчам крыніц піцьцёвай вады;

ф) сочаць за сваячасовым зьнішчэньнем шалёнай жывёлы;

х) садзейнічаюць забясьпечаньню мэдпэрсаналу, вэтэрынараў і аграномаў транспартнымі сродкамі для службовых паездак;

ц) вядуць барацьбу са знахарствам, прыцягваючы знахароў да адказнасьці;

ч) арганізуюць і садзейнічаюць арганізацыі курсаў, гурткоў і г. д. па ўзьняцьцю сельскай гаспадаркі;

ш) садзейнічаюць арганізацыі і разьвіцьцю сацыяльнай дапамогі праз сельскія камітэты ўзаемадапамогі і кіруюць дзейнасьцю апошніх; наглядаюць за ажыцьцяўленьнем законаў пра сацыяльнае забясьпечаньне сялян і сялянак;

э) прымаюць меры да аховы праў і матар'яльных інтарэсаў ваенна-служачых і іх сем'яў, на падставе Кодэксу Законаў аб ільготах і перавагах для ваенна-служачых і іх сем'яў і інструкцый к Кодэксу, забясьпечваюць інтарэсы былых чырвонаармейцаў, партызан, інвалідаў і іх сем'яў.

згодна чыннага законадаўства, а таксама асоб, загінуўшых пры выкананьні рэвалюцыйнага доўгу;

ю) змагаюцца з беспрытульнасьцю і жабрацтвам;

я) устанаўляюць і здымаюць апеку і папячыцельства над сіратамі, недзеяздольнымі асобамі ў парадку, вызначным у Кодэксе Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы, а таксама здымаюць папячыцельства над маёмасьцю, наглядаюць за дзейнасьцю апякуноў і папячыцеляў і праваяраюць маёмасьць асоб, якія знаходзяцца пад апекай, ахоўваюць інтарэсы непаўналетніх;

й) арганізуюць дапамогу насельніцтву пры стыхійных бядотах (пажарах, градабіцьцях, паводках і г. д.) непасрэдна альбо пры дапамозе вышэйшых органаў ўлады.

## 4. Пра пленумы сельскіх саветаў

34. Першы пленум сельскага савету новага складу склікаецца ўпаўнаважаным раённай выборчай камісіі не пазьней двух дзён пасьля сканчэньня выбараў усяго сельскага савету.

Першы Пленум выбірае Прэзыдыум сельскага савету і заслухоўвае справаздачу сельскай выбарчай каміі аб выніках перавыбараў сельскага савету.

35. Чарговыя паседжаньні пленуму сельскага савету адбываюцца не радзей аднаго разу ў месяц.

Нечарговыя паседжаньні пленуму склікаюцца: па прапанове раённага выканаўчага камітэту, па ініцыятыве Прэзыдыуму сельскага савету або па патрабаваньні ня менш аднае трэцяй часткі членаў савету.

36. На паседжаньнях пленуму сельскага савету пастаноўчым голасам карыстаюцца толькі члены сельскага савету. Кандыдаты ў члены сельскага савету карыстаюцца дарадчым голасам, а калі адсутнічаюць некаторыя члены савету—пастаноўчым голасам у парадку рэгістрацыі яўкі кандыдатаў на данае паседжаньне, аб чым абвяшчаецца старшынёй пры адчыненьні паседжаньня.

37. На паседжаньнях пленуму сельскага савету, апроч членаў і кандыдатаў у члены сельскага савету, удзельнічаюць з дарадчым голасам: члены вышэйстаячых выканаўчых камітэтаў, прадстаўнікі мясцовых прафэсыянальных, грамадзкіх і каапэрацыйных арганізацый, члены секцый саветаў, дэлегаткі, а таксама мясцовыя службовыя асобы: народныя судзьдзі, дактары, настаўнікі, аграномы.

Для абмеркаваньня пытаньняў, якія маюць буйнае грамадзкае значэньне, сельскія саветы праводзяць пашыраныя паседжаньні пленумаў саветаў з працягненьнем на іх батрацкага, бядняцкага і серадняцкага актыву, асабліва з ліку калгасьнікаў.

38. Аб месцы і часу пасяджэньняў пленуму і аб парадку дню сельскі савет абвяшчае да агульнага ведама насельніцтва не пазьней, як за 5 дзён.

39. На пасяджэньнях пленуму маюць права прысутнічаць усе выбаршчыкі.

40. Да выключнай кампэтэнцыі пленуму сельскага савету належыць:

а) зацьверджаньне сельскага бюджэту, а таксама зацьверджаньне справаздачы аб яго выкананьні;

б) абраньне дэлегатаў на раённыя зьезды саветаў;

в) абраньне прэзыд. сельскага савету, старшыні, намесьніка і сэкратара і ўпаўнаважаных сельскага савету;

г) абраньне старшыні сельскага суду і касаваньне выбараў гэтага суду;

д) арганізацыя апроч абавязковых сэкцый, паказаных у арт. 59 гэтага палажэньня новых сэкцый, разьмеркаваньне паміж сэкцыямі членаў саветаў, а таксама зацьверджаньне выбраных сэкцыямі старшынь сэкцый;

е) зацьверджаньне пакварталых плянаў работы сельскага савету і яго сэкцый.

41. Апроч пытаньняў, якія належаць да выключнай кампэтэнцыі пленуму сельскага савету, Пленум разглядае:

а) даклады па ўсіх галінах мясцовай гаспадаркі і кіраўніцтва;

б) справаздачы прэзыдыуму сельскага савету;

в) даклады сэкцый сельскага савету і паасобных службовых асоб;

г) даклады прадстаўнікоў вышэйстаячых органаў улады;

д) даклады сельскіх грамадзкіх арганізацый;

е) скаргі насельніцтва і пратэсты установ, прадпрыемстваў і арганізацый на пастановы прэзыдыуму сельскага савету;

ж) усе іншыя пытаньні, якія прэзыдыум сельскага савету палічыць патрэбным перанесьці на пленум сельскага савету.

42. Незалежна ад разгляду пытаньняў, пералічаных у арт. арт. 40 і 41 гэтага Палажэньня, сельскія саветы на сваіх пленумах могуць абмяркоўваць па сваёй ініцыятыве і па прапанове вышэйшых органаў улады усе пытаньні агульнасаюзнага, рэспубліканскага, акруговага і раённага значэньня.

43. Пасяджэньні пленуму сельскага савету зьяўляюцца правадзейнымі, калі на іх бывае ня менш паловы членаў сельскага савету, пры чым гэты лік застаецца абавязковым на ўвесь час пасяджэньня.

## 5. Пра выканаўчыя органы сельскіх саветаў

44. Для выкананьня пастаноў сельскага савету, для выкананьня бягучай работы ва ўсіх галінах кіраўніцтва і для кіраваньня дзейнасьцю сваіх сэкцый, сельскі савет абірае са свайго складу прэзыдыум у складзе 5 членаў, у тым ліку старшыні, намесьніка старшыні і сэкратара сельскага савету.

45. Прэзыдыум сельскага савету выконвае пастановы сельскага савету і вышэйшых органаў улады і паміж пасяджэньнямі пленуму зьяўляецца вышэйшым кіраўнічым і выканаўчым органам улады на тэрыторыі сельскага савету.

46. Прэзыдыум сельскага савету дае справаздачы пленуму сельскага савету раз у чатыры месяцы, а таксама раз у чатыры месяцы робіць даклады аб дзейнасьці сельскага савету на сельскіх сходах.

47. У выпадку разыходжаньняў паміж пастановамі пленуму сельскага савету і вышэйстаячымі органамі, прэзыдыум сельскага савету выконвае загады вышэйстаячых органаў улады і даводзіць аб тым да ведама пленуму сельскага савету на першым-жа яго пасяджэньні.

48. Прэзыдыум сельскага савету склікаецца старшынёй савету па меры патрэбы, але не радзей аднаго разу ў дзесяць дзён.

49. Старшыня, сэкратар і тэхнічны апарат сельскага савета аплачваюцца на мясцоваму бюджэту.

50. У неадкладных выпадках паміж пасяджэньнямі прэзыдыуму сельскага савету старшыня мае права даваць загады і прымаць неабходныя меры па справах, якія ўваходзяць у кампэтэнцыю прэзыдыуму сельскага савету, і дакладвае аб сваіх загадах і мерапрыемствах Прэзыдыуму сельскага савету на бліжэйшым пасяджэньні.

51. Усе загады старшыні сельскага савету могуць скасоўвацца прэзыдыумам сельскага савету.

52. Для выкананьня ў паасобных паселішчах загадаў улады, якія ажыцьцяўляюцца праз сельскія саветы, апошнія са свайго складу абіраюць упаўнаважаных сельскага савету, зьвязаных з данай мясцовасьцю.

53. Упаўнаважаныя сельскага савету яднаюць і ўцягваюць іншых членаў сельскага савету ў грамадзкую работу, кіруюць дзейнасьцю сельскіх выканаўцаў, склікаюць і адчыняюць па даручэньні сельскага савету сельскія сходы, прымаюць заявы ад грамадзян і перадаюць іх у сельскі савет, робяць па даручэньні савету абсьледваньні, удзельнічаюць у складаньні розных актаў.

54. Упаўнаважаныя сельскага савету аб сваёй дзейнасьці даюць сыстэматычныя справаздачы сельсавету і яго прэзыдыуму.

## 6. Арганізацыя масавай работы сельскіх саветаў

55. Важнейшай задачай сельскіх саветаў зьяўляецца залучэньне шырокіх працоўных мас вёскі ў непасрэднае дзяржаўнае кіраўніцтва і арганізацыя батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх пластоў вёскі, для далейшага ўздыму і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

56. Сельскія саветы праводзяць шырокія мерапрыемствы па падняцьці палітычнага і культурнага ўзроўню працоўных мас вёскі, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на работу сярод жанчын-батрачак, бяднячак і серадначак. Сельскія саветы прымаюць усе меры да разгортваньня сярод жанчын культурна-асьветнай і палітычнай работы, прыцягваючы іх да практычнай работы саветаў, да актыўнага ўдзелу ў калгасным будаўніцтве і г. д.

57. Пры разгортваньні новага будаўніцтва, асабліва у калектыўных і савецкіх гаспадарках, сельскія саветы павінны ўжываць захады да арганізацыі ўсякага роду бытавых устаноў (грамадзкія сталоўкі, пральні, яслі, дзіцячыя сады і г. д.), якія спрыяюць далейшаму разьняволеньню працоўных жанчын, асабліва батрачак і бяднячак.

58. Пры ўсіх сельскіх саветах арганізуюцца групы беднаты. Сельскія саветы павінны ўсямерна спрыяць разгортваньню работы груп беднаты, ставіць на іх абмеркаваньне ўсе важнейшыя пытаньні сваёй работы і г. д. Групы беднаты павінны зьяўляцца галоўнай апорай сельскіх саветаў пры ажыцьцяўленьні імі ўсіх мерапрыемстваў.

59. У мэтах залучэньня шырокіх працоўных мас у практычную работу сельскіх саветаў, а таксама для залучэньня ў штодзённую работу ўсіх членаў сельскіх саветаў, пры сельскіх саветах, арганізуюцца сэкцыі па справах:

а) сельска-гаспадарчых;
б) культурна-сацыяльных і дабрабыту;
в) фінансава-бюджэтных і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе;
г) палепшаньня працы і быту жанчын.

Сэкцыі рабоча-сялянскай інспэкцыі арганізуюцца пры сельскіх саветах па пастановах раённага выканаўчага камітэту, узгодненых з аддзелам рабоча-сялянскай інспэкцыі акруговага выканаўчага камітэту.

Апроч гэтых сэкцый сельскі савет па меры патрэбы можа арганізоўваць і іншыя сэкцыі.

Работа с.-г. сэкцыі будуецца па тыпу вытворчых нарад і дзейнічае паводле асобнага пра іх палажэньня.

60. Сэкцыі сельскіх саветаў павінны галоўную увагу зьвяртаць на арганізацыю і работу калектыўных гаспадарак, арганізацыю ў іх вытворчасьці, працы і быту, разгортваньне ў іх культурна-асьветнай работы і г. д.

61. У склад сэкцый пры сельскіх саветах, апроч членаў сельскага савету, павінны асабліва шырока уцягвацца батракі і бедныкі, як асноўнае ядро актыву сельскіх саветаў, жанчыны дэлегаткі, а таксама прадстаўнікі прафэсыянальных і грамадзкіх арганізацый і інш.

62. Склад сэкцый зацьвярджаецца сельскімі саветамі, якія ўстанаўляюць і лік членаў сэкцый. Сельскі савет можа, у выпадку неабходнасьці, рабіць пераразьмеркаваньне членаў сельскага савету па паасобных сэкцыях. Старшынёю сэкцыі можа быць толькі член сельскага савету.

63. Усе члены сэкцый сельскіх саветаў на пасяджэньнях сэкцый карыстаюцца пастаноўчым голасам.

64. Сэкцыі пра сваю дзейнасьць робяць справаздачы сельскаму савету і яго прэзыдыуму і выконваюць бягучую работу пад кіраўніцтвам прэзыдыуму сельскага савету.

65. Члены сэкцый абавязаны прымаць актыўны удзел у рабоце сэкцый, у склад якіх яны ўваходзяць, наведваюць усе пасяджэньні сэкцый, выконваць даручэньні, ускладзеныя на іх сэкцыямі.

66. Задачамі сельскіх сэкцый, апроч паказаных у арт. 60 гэтага Палажэньня, зьяўляецца практычнае азнаямленьне членаў сельскага савету, з работай у данай галіне, распрацоўка мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню загадаў вышэйстаячых органаў улады у той-жа галіне, дэталёвая распрацоўка мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьню заданьняў як сельскага савету, гэтак і вышэйстаячых органаў, прапрацоўка пытаньняў, якія ўносяцца на разгляд пленуму сельскага савету, праяўленьне ініцыятывы у адпаведнай галіне работы.

67. Пасяджэньні сэкцый савету адбываюцца ў плянавым парадку ў дні, якія ўстаноўлены сэкцыямі і зацьверджаны сельскім саветам не радзей аднаго разу ў месяц і склікаюцца старшынёй сэкцыі.

68. Пастановы сельскіх сэкцый зацьвярджаюцца сельскім саветам, або яго прэзыдыумам, пасьля чаго яны праводзяцца ў жыцьцё.

## 7. Пра агульныя сходы выбаршчыкаў і кіраўніцтва імі

69. Сельскія саветы залучаюць працоўных у вырашэньне пытаньняў дзяржаўнага і мясцовага будаўніцтва, шляхам рэгулярнага склікаьньня агульных сходаў выбаршчыкаў.

70. Агульныя сходы выбаршчыкаў у залежнасьці ад таго, якія на іх будуць вырашацца пытаньні, складаюцца з працоўнага насельніцтва: а) паасобных паселішчаў; б) выбарчых вучасткаў; в) часткі паселішчаў (аб'яднаныя агульныя сходы), якія ўваходзяць у сельскі савет.

Асобы, пазбаўленыя выбарчага права, на агульныя сходы не дапушчаюцца.

71. Сельскія саветы склікаюць агульныя сходы па меры патрэбы, але не радзей аднаго разу ў тры месяцы, як па сваёй ініцыятыве, гэтак і паводле заявы грамадзкіх і прафэсыйных арганізацый, калектыўных і савецкіх гаспадарак, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету, сельскіх рэвізійных камісій, а таксама паводле заявы грамадзян данага сельскага сходу, якія маюць права ў ім удзельнічаць.

72. Аб часе і месцы агульнага сходу, а таксама аб пытаньнях, якія будуць абмяркоўвацца на гэтым сходзе, сельскі савет абавязкова паведамляе выбаршчыкам праз сельскіх выканаўцаў, а таксама шляхам вывешваньня на відных мясцох адпаведных абвестак.

Калі трэба склікаць агульны сход тэрмінова, дык сельсавет можа гэта зрабіць і без папярэдняга абвяшчэньня парадку дню. Агульны сход мае права дапаўняць парадак дню, запрапанаваны сельскім саветам.

73. Агульны сход лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае ня менш 35 процантаў усіх асоб, што жывуць на тэрыторыі данага паселішча або вучастку і карыстаюцца выбарнымі правамі.

Агульныя сходы, якія склікаюцца выключна для выбараў сельскіх саветаў, сельскіх рэвізійных камісій і для адкліканьня дэпутатаў, лічацца правамоцнымі, калі на іх прысутнічае колькасьць выбаршчыкаў, паказаная ў адпаведных законах.

74. Агульны сход выбаршчыкаў адчыняецца ад імя сельскага савету яго старшынёй або ўпаўнаважаным на гэта членам сельскага савету.

75. Для кіраваньня агульным сходам апошні абірае прэзыдыум у складзе ад 3 да 7 асоб, у тым ліку старшыню і сэкратара агульнага сходу.

76. Пытаньні на агульных сходах вырашаюцца адчыненым галасаваньнем большасьцю галасоў.

77. Дакладчыкаў па пытаньнях, якія ўносяцца на разгляд агульнага сходу сельскімі саветамі вылучае сельскі савет, які па гэтых пытаньнях распрацоўвае таксама праэкты адпаведных пастаноў і падае іх на абмеркаваньне агульнага сходу.

По пытаньнях, якія ўносяцца на раз-

гляд агульнага сходу арганізацыямі або групаю грамадзян, дакладваюць ініцыятары пытаньняў.

78. На агульным сходзе вядзецца пратакол, у які запісваюцца выслуханыя пытаньні, і пастановы па іх, а таксама колькасьць грамадзян, якая прысутнічае на агульным сходзе. Пратакол падпісваецца старшынёй і сэкратаром агульнага сходу выбаршчыкаў.

79. Пратаколы агульных сходаў перадаюцца не пазьней, як праз тры дні ў сельскі савет. Пастановы агульнага сходу ўваходзяць у сілу пасьля зацьверджаньня іх прэзыдыумам сельскага савету і выконваюцца апошнім ва ўстаноўленым ім парадку.

Пастановы агульных сходаў аб адкліканьні асобных членаў саветаў зацьверджаньню сельскага савету не падлягаюць.

80. Усе спрэчкі, што ўзьнікаюць у сувязі з пастановамі агульнага сходу (незацьверджаньне сельскімі саветамі пастаноў сходу, скаргі грамадзян, грамадзкіх арганізацый і г. д.), канчаткова вырашаюцца раённым выканаўчым камітэтам.

81. Сельскі савет аб выкананьні пастаноў агульнага сходу паведамляе грамадзянам на бліжэйшым сходзе.

## 8. Правы і абавязкі членаў і кандыдатаў у члены сельскіх саветаў

82. Члены сельскіх саветаў, як прадстаўнікі працоўных мас калгасных аб'яднаньняў, вёсак, фабрык і г. д. павінны прымаць самы актыўны ўдзел у штодзённай рабоце саветаў і садзейнічаць вырашэньню стаячых перад сельскімі саветамі задач.

83. Члены сельскіх саветаў, зьяўляючыся перадавымі работнікамі ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі, павінны падтрымліваць шчыльную сувязь з выбаршчыкамі і грамадзкімі арганізацыямі.

84. Члены сельскіх саветаў абавязаны прысутнічаць на ўсіх пасяджэньнях саветаў, а таксама выконваць усе даручэньні сельскага савету або яго прэзыдыуму.

85. Кожны член сельскага савету абавязан быць членам ня менш аднэй сэкцыі па свайму выбару або па пастанове сельскага савету і прымаць у яе рабоце актыўны ўдзел.

86. Члены сельскага савету маюць права ўдзельнічаць з правам дарадчага голасу ў пасяджэньнях і нарадах савецкіх устаноў і грамадзкіх арганізацый, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету.

87. Пры абсьледваньнях або выкананьні іншых даручэньняў сельскага савету або яго прэзыдыуму члены сельскага савету ня могуць умешвацца ў апэрацыйную дзейнасьць абсьледуемых устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый і ня маюць права даваць, якія-небудзь загады ад свайго імя або ад імя сельскага савету. Аб выніках абсьледваньня члены сельскага савету дакладваюць сельскаму савету або яго прэзыдыуму.

88. Члены сельскага савету, якія выконваюць па даручэньні сельскага савету сталыя або часовыя абавязкі, за бязьдзейнасьць, злоўжываньні або перавышэньне ўлады і інш. злачынствы прыцягваюцца да адказнасьці ва ўстаноўленым законам парадку.

89. За ненаведваньне бяз уважлівых прычын пасяджэньняў сельскага савету, а таксама за невыкананьне іншых абавязкаў, ускладзеных на членаў сельскага савету, сельскі савет можа абвясьціць гэтым членам вымову з паведамленьнем на адпаведным агульным сходзе выбаршчыкаў, а таксама можа ставіць перад выбаршчыкамі пытаньне аб адкліканьні такіх членаў савету.

90. Члены сельскага савету могуць быць арыштаваны толькі з адначасовым паведамленьнем аб гэтым прэзыдыуму або старшыні сельскага савету, а члены прэзыдыуму—з адначасовым паведамленьнем аб гэтым прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту або яго старшыні.

91. Члены сельскага савету выконваюць свае дэпутацкія абавязкі бясплатна.

92. Час, які траціцца членам сельскага савету на выкананьне дэпутацкіх абавязкаў па даручэньні сельскага савету, калі гэты час супадае з рабочым часам, аплачваецца ў разьмеры сярэдняга заробатку данага члена савету той установаю, прадпрыемствам, арганізацыяй альбо асобаю, дзе ён працуе.

Асобы, якія перашкаджаюць членам сельскага савету, працуючым па найму, выконваюць іх дэпутацкія абавязкі, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

93. Члены сельскага савету абавязаны знаёміць усіх працоўных з пастановамі і загадамі савецкай улады, а таксама з усімі мерапрыемствамі сельскага савету.

94. Члены сельскага савету даюць на агульных сходах выбаршчыкаў справаздачы аб сваёй дзейнасьці не радзей аднаго разу ў чатыры месяцы.

95. На кандыдатаў у члены сельскага савету распаўсюджваюцца ўсе правы і абавязкі, якія ўстаноўлены для членаў сельскага савету.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
А. ЧАРВЯКОЎ.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
А. ХАЦКЕВІЧ.

21 красавіка 1930 г.
г. Менск.




# КАЛГАС „ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК“



Урачысты выезд у поле для пасеву ярыні.



Мытынг перад першым выездам у поле.



Любуюцца шэрагамі аратых.

Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ (Мікуліцкага сельсавету, Брагінскага раёну, Гомельскай акругі), арганізаваны ў сьнежні 1929 г., хоць праца па яго арганізацыі пачалася яшчэ з вясны 1928 г. Значны ўдзел у гэтым пытаньні прыймалі мясцовыя партыйныя арганізацыі, працаўнікі Акрпаляводсаюзу і самі сяляне в. Мікулічы, паміж імі С. Васільляў, С. Смольскі, Г. Крысенка, К. Ганчар і інш. Доўга абмяркоўвалі беднякі і серадняки пытаньне аб арганізацыі калгасу, але, калі вырашылі, дык увайшлі амаль што ўсёй вёскай з навакольнымі паселішчамі. Ніякія нагаворы з боку кулацтва не перашкодзілі справе. Праўда, больш няўстойлівыя сяляне адайшлі было ад калгасу, але потым зноў прышлі і ўжо добра працуюць у калгасе.

Зараз у калгасе 137 гаспадарак (800 едакоў). Вось твар гэтага калгасу: даўжыня калгасу 10 кілёмэтраў і шырыня 6 кілёмэтраў. Усёй зямлі 2.800 *га*, з іх 1.000 *га* сенажаці, 1.700 пахаці і 100 *га* пад сядзібамі. Глеба—1.200 *га*—цяжкі суглінак і 500 *га* супясі. Калгас мае азімых 504 *га*, канюшыны першага і другога год—125 *га* і 1.071 *га* пахаці пад яравымі. Па рабочаму пляну ў калгасе сеецца: бульбы 200 *га*,

ільну 125 *га*, аўса 250 *га*, ячменю 100 *га*, вікі на насеньне 100 *га* і на корм 30 *га*, буракоў і тытуну па 10 *га*, крупяных 150 *га*. Рэшта зямлі ідзе пад пасеў іншых культур і пад гарод.

Ураджай збажыны ў гэтым калгасе вельмі добры, у паасобных выпадках атрымлівалі наступны ўраджай: пшаніцы звыш 200 пуд., аўса 180 пуд., жыта 150 п., проса 300 п., бульбы 1.500 пуд. Сярэдні



**Выхад у поле з машынамі калгасу „Чырвоны Кастрычнік“.**

ўраджай пшаніцы—140 пуд., жыта 100 пуд., бульбы 1.000 пуд. з *га*. Такім чынам *у гэтым годзе калгас будзе мець лішкаў азімага збожжа 30—35 тысяч пудоў. Пасеўная плошча пашырылася на 425 га.* У калгасе маецца 150 галоў рагатай жывёлы, 60 цялят, 100 сьвіньняў з маладняком, звыш 200 авечак, 216 коняй і 60 галоў маладняку. На тэры-



**Дзеці-вучні калгасу з чырвонымі штандарамі праважалі ў поле аратых.**



**Група калгасьнікаў разам са старшынёю (у сярэдзіне).**

торыі калгасу пабудаваны ільняны сушыльна-мяльны пункт. Праца калгаса арганізавана. Арганізаваны майстэрні: рымарная, шорная, шавецкая, кравецкая, стэльмашня і будуецца трактарная майстэрня; 1-га мая адчынена сталоўка, з 15-га мая дзіцячыя яслі. Калгас выехаў у поле 8/IV—г. г., выезд меў вельмі добры выгляд. У сонечную раніцу

# ЖЫВЁЛА КАЛГАСУ „ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК“



Малюнкі 1 і 2 зьверху—
БЫКІ-ВЫТВОРЦЫ



КАРОВЫ



ЦЯЛЯТЫ

выехалі да месца збору 64 пары з плугамі, сявалкамі, граблямі, культыватарамі, баронамі і г. д. Шмат народу сабралася праважаць калгасьнікаў у поле: прышлі жанчыны, вучні, дзеці. Пад музыку і сьпевы вышлі ў поле; поезд расьцягнуўся на цэлую вярсту. У полі зноў усе сабраліся. Пасьля кароткага мітынгу, пры гучных выкліках ура—няхай жыве камуністычная партыя, савецкая ўлада, калектывізацыя—арахыя пачалі працу. За 4 гадзіны было ўзворана 30 *га*.



Сьвіньні калгасу „Чырвоны Кастрычнік".

Гэта быў прыгожы гістарычны дзень у вёсцы Мікулічах—па сацыялістычнай пабудове сельскай гаспадаркі.

Гэты калгас на сёнешні дзень першы ў акрузе. Пры наліччы такіх актывістых, якія маюцца ў калгасе, і пры дапамозе кіруючых органаў, калгас будзе добрым маяком калектывізацыі ня толькі для раёну, але і для ўсяе акругі.

Аграном **Тарасаў.**

---

## Кожны крок бярэцца з бою

*(Пра Малінаўскі калгас „Прагрэс")*

### Крыху гісторыі

Яшчэ восеньню 1929 году малінаўскія батракі, бедната і лепшая частка серадняцтва (Папернянскі с/с., Астрашыцка - Гарадзецкага р., Менскай акругі) прабавалі арганізавацца ў сельска-гаспадарчую арцель. Ужо тады запісалася было каля 20 гаспадарак. Але кулацтва, бачачы ў арганізацыі калгасу пагібель сваіх эксплёататарскіх мэт, павяло шалёную агітацыю супроць калгасу. Сельсавецкія і Рыкаўскія работнікі тады не надалі належнай увагі пачынаньням малінаўскай беднаты, ня здолелі арганізацыйна аформіць калектыў—і ён распаўся. І толькі ў пачатку 1930 году зноў арганізоўваецца калектыў. Праўда, нарадзіўся ён ў барацьбе з кулацтвам. Што толькі кулакі не рабілі, каб і на

гэты раз яго разваліць. Яны пісалі на дрэвах пры дарозе, на віднын мясцох, што расправяцца з зачыншчыкамі арганізацыі калектыву, з быўшым чырвонаармейцам Бароўскім Рыгорам. Распускаліся розныя плёткі, што паміж калгасьнікамі ідуць бойкі, што яны галадаюць, што адабраная жывёла ў кулакоў падыхае і г. д. Адзін раз нават кулакі



Праўленьне калгасу „Прагрэс“ з чырвонаармейцамі-шэфамі за складаньнем вытворчага пляну.

прабавалі ўжыць тэрор. Так, калі два калгасьніка ўвазілі ад кулака маемасьць, дык іх зачынілі ў сьвірне. Дзякуючы толькі таму, што ў сьвірне была сякера, калгасьнікам удалося адчыніць дзьверы і выйсьці.

Гэтая кулацкая агітацыя зрабіла уплыў на няўстойлівую частку калгасьнікаў, якая і вышла з калектыву.



Рамонт с.-г. інвэнтару ў кузьні ў калгасе „Прагрэс“.

У калгасе засталася 20 гаспадарак, якія, як кажа тав. Сталін, сапраўды зьяўляюцца „героямі калгаснага руху“.

Падрыхтоўку да веснавой пасеўкампаніі калгасьнікі правялі ва ўдарным парадку. Гэтаму садзейнічала тое, што актыўныя працаўнікі

калгасу, амаль усе прайшлі школу Чырвонай арміі,—гэта ўстойлівыя, загартаваныя таварышы. За час службы ў Чырвонай арміі яны навучыліся працаваць па-ўдарнаму.

Зараз малінаўскі калгас „Прагрэс“ зьяўляецца першым ва ўсім сельсавеце. Загадзя да сяўбы адрамантаваны ўвесь с.-г. інвэнтар і збруя. Уся рабочая сіла ў час пасеўнай кампаніі скарыстана на 100%. Для гэтага малінаўцы арганізавалі агульнае харчаваньне для тых, што працавалі на полі.



Барацьба пад ярыну ў калгасе „Прагрэс“.



Збор да выхаду ў поле.

12 красавіка сумесна з шэфам—6 палком, малінаўцы зрабілі першы выхад у поле. Калгасьнікі не забылі скласьці пляны веснавой кампаніі, які прадугледжвае пашырэньне пасеўнай плошчы на 12%.

Ёсьць дасягненьні і на палітычным фронце. За гэты кароткі час існаваньня калгасу арганізавалі чырвоны куток, маецца радыё. У хуткім часе будзе ўстаноўлен гучнагаварыцель. Выпісваецца да 10 газэт і часопісаў. Для дзяцей арганізоўваюцца яслі, для якіх робяцца ложачкі.

З пачатку ў калгасе было 2 камсамольцы, зараз арганізавалася камсамольская ячэйка з 9 асоб. **П. С.**

---

# Калгас „Чырвоная Зорка“

*(Барысаўскі р., К.-Слабодзкага с/с.)*

Сельска-гаспадарчая арцель „Чырвоная Зорка“ арганізавалася ў 1922 г. у былым абшарніцкім маёнтку каля вёскі Кішчына - Слабада. Ад гораду і бліжэйшай станцыі (Барысаў) знаходзіцца ў 18 *км*. Бліжэйшымі буйнымі гаспадаркамі да гэтага часу былі: саўгас „Весялова“ (у 8 *км*) і калгас „Праца“ (у 6 *км*). У в. Кішчына-Слабода ёсьць спажывецкая і с.-г. кааперацыя, якая забясьпечвае калгас сельска-гаспадарчымі машынамі і праз якую калгас збывае свае прадукты.

У першыя гады свайго існаваньня (1922-24 г.г.) калгас знаходзіўся ў досыць цяжкіх умовах: ня меў належнай дапамогі і кіраўніцтва праца была слаба арганізавана і малапрадукцыйна, жывёлы было вельмі мала, ня было ўгнаеньня, ураджаі былі нізкія. Частка былых батракоў ужо ў 1922 г. з калгасу выбыла ў горад. Зямля калгасу ў значнай меры апрацоўвалася і засявалася сялянамі в. К.-Слабада. З кал-



**Рамонт збруі ў калгасе „Прагрэс“.**

гасу сталі выдзяляцца паасобныя гаспадаркі і засяляць зямлю калгасу. Такія „хутары“ яшчэ да гэтага часу існавалі на зямлі калгасу. Побач з калгасам знаходзіўся і аграпункт, які аніякай дапамогі і карысьці калгасу ня даў і быў ліквідаваны ў 1923 г. У 1924 г. калгас быў рэарганізаваны і гаспадарка патроху пачала расьці і паляпшацца.

У сучасны момант у калгасе налічваецца 15 сем'яў. Калгас мае 128,92 *га* зямлі, якая разьмяркоўваецца наступным чынам: пад сядзібай 6 *га*, пад агародам 1,55 *га*, пад садам 1,75 *га*, пахаці 87 *га*, пад лугам 25,53 *га* (заліўнога 8,25, сухадольнага 14 і балотнага лугу 3,28 *га*), пад лесам і хмызьнякамі 1,93 *га*, пад выганам і няўдобіцы—5,26 *га*.

Характар гаспадаркі — пераважна зярнёвы, але ў калгасе досыць добра пастаўлена і жывёлагадоўля, якая з кожным годам пашыраецца і паляпшаецца. Асноўнымі палявымі культурамі зьяўляецца: жыта, авёс, бульба.

У мінулым годзе суадносіны культур пры дзевяціпольным севазвароце, які яшчэ належным чынам не ўстанавіўся, былі наступныя: жыта 24% (19 *га*), авёс—28,8% (22 *га*), ячмень—6,5% (5 *га*), бульба—11,8% (9 *га*), канюшына—11,8%, лубін—13% (10 *га*), караньплоды каля 2% (1,5 *га*). Ураджайнасьць у калгасе за апошнія гады, у сувязі з належнай апрацоўкай глебы і палепшаньнем угнаеньня, значна павялічылася ў параўнаньні з ураджаямі папярэдніх гадоў і ўраджаямі ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках. Так, напрыклад, ураджай жыта ў мінулым годзе ў калгасе быў $11^2/_3$ цэнтн., аўса 11 цэнтн., ячменю 16 цэнтн., бульбы—14,1 тон. Ураджаі на сялянскіх палёх былі значна ніжэй. Калгас закантрактаваў 22 *га* аўса, 15 тон бульбы і 1 *га* ячменю; у далейшым кантрактацыя павялічыцца.

За апошнія гады калгас стаў набываць сельска-гаспадарчыя машыны. Цяпер ужо ў калгасе ёсьць 1 сявалка, 2 жняяркі, 1 малатарня, 1 касілка, 1 машына для ачысткі зерня, 1 корнярэзка, 7 параконных плугоў, 6 барон зіг-заг, 1 акучнік. Рабочых коней 10, маладняку 2.

Жывёлагадоўля ў калгасе пастаўлена досыць добра: ёсьць 40 кароў мясцовай пароды і 8 штук маладняку, 23 сьвіньні, 11 падсьвінкаў і 30 авечак. Птушак няма. Каровы і сьвіньні знаходзяцца ў цёплых хлявох і добра даглядаюцца. Як буйная, так і дробная жывёла абагулена. Жанчыны спачатку былі супроць абагуленьня сьвіней, але потым пераканаліся, што гэта лепш для іх-жа. Наогул, па ступені абагуленьня сродкаў вытворчасьці, жывёлы і па сваёй гаспадарчай арганізацыі калгас у значнай меры набліжаецца да камуны. Розьніца толькі ў арганізацыі спажываньня прадуктаў вытворчасьці. Частка калгасьнікаў цяпер ужо часта ставіць пытаньне аб рэарганізацыі арцелі ў камуну. Трэба думаць, што пытаньне гэта будзе скора вырашана станоўча.

Калгас мае і свае прамысловыя прадпрыемствы, праўда, невялікія: вадзяны млын з сукнавалкай і лесапілку. Валавая продукцыя вырабу млыну за мінулы год была роўна 8.235 руб. і сукнавалкі 880 руб. Млын даў у год чыстага прыбытку 4.000 руб., якія скарыстоўваюцца на палепшаньне гаспадаркі калгасу, на рамонт, набыцьцё машын і інш.

Капіталы калгасу наступныя: уступных—380 руб., паявых—3.777 р., непадзельны—645 руб., спэцыяльны—245 руб., запасны—1226 руб. і ўкладаў калгасьнікаў—88 руб. 16 кап. Як відаць, непадзельны капітал калгасу яшчэ вельмі малы. Калгас мае запазычанасьць с.-г. каапэрацыі ў суме 5.000 руб. Крэдыты бяруцца пераважна на набыцьцё жывёлы, машын, угнаеньняў і на рамонт будынкаў.

У арганізацыі працы ў калгасе праводзіцца, хаця і няпоўнасьцю, прынцып спэцыялізацыі: адны працуюць у млыну, на лесапілцы, другія даглядаюць за каровамі, трэція (жанчыны) за сьвіньнямі і г. д.

У полі і на сенажаці працуюць усе дарослыя і працаздольныя. Аплата працы падзённая: мужчына атрымоўвае ў дзень 1 руб. 50 кап. улетку і 1 р. 25 к. увосень, а жанчына 1 р. 25 к. улетку і 1 р. увосень. Зьдзельная аплата не практыкавалася, але кіраўніцтва калгасу мае на ўвазе паставіць гэта пытаньне на вырашэньне сходу калгасьнікаў. Дэталёва распрацаваных плянаў працы ў калгасе да вясны ня было, а гэта да пэўнай ступені адбіваецца на працы. Трэба так пабудаваць плян працы і так разьмеркаваць абавязкі кожнага калгасьніка, каб кожны зараней ведаў, дзе, калі і што ён будзе рабіць, а значыць і падрыхтавацца да лепшага выкананьня сваіх абавязкаў.

Калі ў арганізацыі гаспадаркі калгас мае ўжо пэўныя посьпехі і дасягненьні, дык у культурным і грамадзкім жыцьці калгасу ёсьць яшчэ

значныя недахопы. У грамадзкіх арганізацыях (МОПР, Асоавіахім і інш.) састаіць толькі 5 чал., гурткоў зусім няма, няма ні клюбу, ні чырвонага кутку, дзе-б можна было праводзіць сыстэматычную працу. Сярод калгасьнікаў ёсьць яшчэ няпісьменныя (5 чал.), якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць на лікпункце.

Праца суседняй К.-Слабодзкай школы абмяжоўваецца толькі ліквідацыяй няпісьменнасьці. Гэтага, бязумоўна, мала. У калгасе трэба было-б арганізаваць гурткі (палітычны, сельска-гаспадарчы і інш.), праводзіць гутаркі на тэмы сёньнешніх задач і інш. Літаратуры ў калгасе амаль няма, за выключэньнем некалькіх кніжак па сельскай гаспадарцы (устарэлых, якія ляжаць на стале ў старшыні праўленьня калгасу і мала кім чытаюцца).

Партыйцаў у калгасе, апрача старшыні калгасу, няма і палітычнае выхаваньне пастаўлена слаба. Палепшаньне культурнай працы і палітычнага выхаваньня калгасаў—адна з важных задач, на якую трэба зьвярнуць належную ўвагу.

Як на недахоп, трэба ўказаць на слабую працу калгасу ў прапагандзе сярод мясцовага насельніцтва справы калектывізацыі, ня гледзячы на тое, што сам калгас зьяўляўся яскравым прыкладам выгады і перавагі буйнае калектыўнае гаспадаркі перад дробнай. Тлумачыцца гэта, бязумоўна, адсутнасьцю культурных і партыйных сіл у калгасе.

Калгас усё-ж адыграў ролю практычнай школы папулярызацыі калгаснага будаўніцтва ў раёне сваёй дзейнасьці і зараз, у сувязі з масавым калгасным рухам, ён зьявіцца тым ядром, навокал якога будзе будавацца і расьці новы вялікі калгас, у які ўвальлюцца суседнія вёскі.

**В. Самцэвіч.**

**Заўвага рэдакцыі.** Пажадана мець адказ ад калгасу для зьмяшчэньня ў наступным нумары часопісу аб тым, як праводзіцца зьдзельшчына ў калгасе, якая вытворчасьць працы, колькі калгас уцягнуў у свае шэрагі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак?

---

## Бальшавіцкая сяўба

На зайздрасьць ворагам калгаснага будаўніцтва—згуртаванымі шэрагамі калгас „Пралетарская Перамога“ Новасёлкаўскага с. с., Барысаўскага раёну, выканаў вясновую сяўбу ў тэрмін. Зараз у калгасе 40 сямейств.



На здымку—першая баразна ў калгасе „Пралетарская Перамога“.
(Фотаздымак Хоміча В. М.).

# ПРА ВУЧОТ І ЎГНАЕНЬНЕ

## Яшчэ адзін моцны пролетарскі атрад у шэрагі калгасных кадраў

Саюз Саўгандльслужачых, ідучы насустрэчу шырокаму грамадзкаму жаданьню прафсаюзных мас, мабілізаваў каля 700 рахункаводных працаўнікоў ад розных устаноў і прадпрыемстваў гораду і накіраваў на працу ў калгасы. З гэтай колькасьці 200 асоб накіраваны на сталую працу ў якасьці рахункаводаў і бухгальтароў, а рэшта на часовую працу (на час вясеньняй пасяўной кампаніі), тэрмінам на 2 месяцы.

Ня гледзячы на гэтыя вельмі важныя дасягненьні, у сучасны момант, пры вострым крызісе на рахункаводных працаўнікоў, здаволіцца гэтай колькасьцю і якасьцю працаўнікоў ні ў якім разе нельга.

Сучасны этап калгаснага разьвіцьця патрабуе такога кадру працаўнікоў, які-б мог правільна праводзіць лінію партыю ў вёсцы і весьці рашучую барацьбу з рознымі парушэньнямі і скрыўленьнямі партыйнай лініі на практыцы.

Апрача гэтых неабходных запатрабаваньняў, якія зараз абавязкова патрэбна прад'яўляць калгасным кадрам, у прыватнасьці рахункаводным працаўнікам, трэба зазначыць, што само рахункаводзтва ў калгасах вельмі складанае, часткова таму, што яно, наогул, зьяўляецца новым, а часткова з-за адсутнасьці неабходных паказаньняў, інструкцый і іншых кіруючых матар'ялаў.

Зараз, калі асноўнай проблемай калгаснага будаўніцтва зьяўляецца *правільная арганізацыя працы ў калгасах, форм і спосабаў яе аплаты, пытаньне вучоту гэтай працы на паасобных калгасьнікаў набывае дамінуючае значэньне, ад правільнасьці і хуткай пастаноўкі якога, фактычна, залежыць далейшае пасьпяховае калгаснае будаўніцтва і асабліва замацаваньне ўжо дасягнутых посьпехаў.*

Зусім зразумела, што на гэтае пытаньне мы павінны зьвярнуць сур'ёзную ўвагу, бо калі ў нас будзе пастаўлена на належную вышыню арганізацыя працы і *вучот*, дык мы сьмела можам быць упэўнены ў нашых посьпехах у далейшым.

Трэба адзначыць, што добра пастаўлены вучот у калгасах (а гэта значыць, што тады ўсё будзе ўлічана і ўся калектыўная вытворчасьць дасьць пэўную карысьць як калгасу, гэтак і калгасьнікам) зьяўляецца лепшай формай агітацыі за ўступленьне ў калгас рэшткі сялянства (бядната і серадня кі), якая яшчэ з прычыны кулацкага ўплыву да гэтага часу ў калгас ня ўступіла.

Мы добра ведаем, што кулак, падкулачнік і наогул антысавецкі элемэнт, здолеўшы падмануць грамадзкасьць і ўступіць у калгас, спрабуе ўзарваць яго ізнутры ўсімі магчымымі спосабамі. Адсутнасьць уліку ўсёй вытворчасьці, абагуленай маемасьці, працы будзе спрыяць шкодніцкай рабоце кулакоў. А таму мы лічым, што гэтае пытаньне,

пытаньне пастаноўкі вучоту ў калгасах, у сучасны момант, пры абвостранай клясавай барацьбе і ліквідацыі кулацтва як клясы, у такі адказьнейшы пэрыяд як вясеньня-пасеўная кампанія—зьяўляецца пытаньнем першачарговай важнасьці ня толькі чыста-гаспадарчага характару, а нават мае глыбокі палітычны зьмест.

Вось чаму ЦК УсеКП(б) і ЦК УсеЛКСМ пастанавілі мабілізаваць 20.000 камсамольцаў гораду і вёскі і накіраваць іх на сталую працу ў калгасы, падрыхтаваўшы іх у якасьці рахункаводаў.

Трэба адзначыць, што гэтая мабілізацыя мае вялікае палітычнае значэньне і ад умелага і пасьпяховага правядзеньня яе многае залежыць у справе пастаноўкі вучоту ў калгасах.

Згодна пастановы ЦК ЛКСМБ і Калгасцэнтру БССР у Беларусі павінна быць мабілізавана 250 камсамольцаў.

Кампанія мабілізацыі пачынаецца ўва ўсіх акругах БССР зараз. Для мабілізаваных у кожнай акрузе будуць адчынены 3-х месячныя курсы, праз якія павінны будуць прайсьці ўсе мабілізаваныя з тым, каб атрымаць самыя неабходныя веды як у справе с.-г. рахункаводзтва, гэтак і ў справе азнаямленьня з калгасным будаўніцтвам.

Для правядзеньня курсаў патрабуецца, па прыблізных падліках, каля 60 тыс. руб. Гэтую суму патрэбна будзе адшукаць ад розных устаноў і організацый, зацікаўленых у гэтай справе. Ня гледзячы на тое, што зьявяцца ўсялякія „лішнія размовы наконт адсутнічаньня грошай“ трэба, каб гэтыя бюракратычныя спрэчкі не пашкодзілі сваячасоваму адчыненьню курсаў, бо, відавочна, грашовы бок справы будзе зьяўляцца галоўнай прычынай, дзякуючы якой можа атрымацца затрымка ў сваячасовым правядзеньні курсаў.

Зараз асноўнай задачай як камсамольскіх, гэтак і калгасных арганізацый зьяўляецца перш за ўсё правядзеньне растлумачальнай работы сярод камсамолу БССР аб неабходнасьці правядзеньня гэтага мерапрыемства.

Трэба, каб КСМ БССР ведаў, што вялізарны калгасны рух, у абставінах абвостранай клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва, як клясы, патрабуе шмат сіл і сродкаў партыі, рабочае клясы і камсамолу.

Сілы партыі і рабочае клясы ўжо кінуты ў вёску трохі раней. Усім вядома, што пралетарыят БССР ужо зрабіў свой каштоўны ўклад шляхам мабілізацыі „600“ рабочых у калгасы, якія ўжо накіраваны і працуюць вельмі добра. Таксама КП(б)Б мабілізавала 100 адказьнейшых партыйных і савецкіх працаўнікоў, у большасьці кіруючага складу на сталую працу ў калгасы і 200 на час вясеньняй пасеўнай кампаніі. Зараз наступіла чарга другога пакаленьня—камсамолу, які з гонарам выканае свой абавязак. КСМ таксама дае 250 сваіх лепшых таварышоў на карысьць сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Асаблівая ўвага павінна быць зараз удзелена пытаньню вярбоўкі і адбору камсамольцаў, якія-б адпавядалі ўмовам, што прад'яўляюцца да мабілізуемых камсамольцаў: пісьменнасьць палітычная і агульная (бегла чытаць, пісаць, ведаць 4 дзеяньні арытмэтыкі і дзесяцічныя дробы), вытрыманасьць, дастатковы стаж і г. д. Трэба памятаць, што сацыяльна-палітычны склад, „пераплёт“ сеняшняй вёскі патрабуе вельмі моцных і здольных працаўнікоў, якія былі-б здатны змагацца за ажыцьцяўленьне калектыўных форм у сельскай гаспадарцы. Разам з гэтым трэба памятаць і тое, што мабілізаваныя таварышы, побач з іх спэцыяльным назначэньнем, не павінны быць „чыстымі рахунка-

водамі", *а кіраўнікамі*—кіраваць калгасным рухам. Таму мы павінны прад'яўляць запатрабаваньні да іх, як да адказных працаўнікоў, бо вучастак працы на вёсцы зьяўляецца сёньня вельмі адказным, а дзеля таго туды павінны быць накіраваны самыя лепшыя з камсамолу, не выключаючы адказных працоўнікоў па займаемых у сучасны момант пасадах

Мы лічым, што камсамольскія арганізацыі, райкомы і ячэйкі павінны пачаць зараз-жа гэту кампанію і разьвярнуць яе такім чынам, каб да вызначанага тэрміну 10—15 мая мы маглі-б адчыніць курсы і пачаць падрыхтоўку працаўнікоў для працы ў калгасах.

Трэба гэту справу падрыхтаваць так, каб да пачатку адчыненьня курсаў ужо былі вырашаны наступныя пытаньні, як, напрыклад: арганізацыя курсаў, памяшканьне, абсталяваньне, лектарскі пэрсанал і г. д.

Мы таксама лічым, што да гэтай важнай палітычнай кампаніі павінна быць прыцягнута ўвага ўсёй партыйнай, савецкай і прафсаюзнай грамадзкасьці.

*Усе павінны дапамагчы пасьпяховаму правядзеньню яе, бо толькі тады мы даб'емся рэальных вынікаў, якіх чакаем ад гэтай мабілізацыі.*

*Мы ўпэўнены ў тым, што гэта мабілізацыя пройдзе з вялікім уздымам, і што вакол яе будзе сканцэнтравана грамадзкая ўвага, а камсамол-жа бліскуча выканае гэту пастанову і гэтым яшчэ раз прадэманструе сваё ленінскае выхаваньне, атрыманае ім пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.*

**Е. Новік.**

---

## Бяз вучоту нельга будаваць сацыялізму

Зараз, у час сацыялістычнага будаўніцтва, калі ўся праца ідзе з нячуваным да гэтага тэмпам, вучот павінен не адставаць, не тармазіць справы, а дапамагаць.

Зусім іншае наглядаецца ў арганізаваных новых калгасах, дзе рахункаводзтва і вучот на сёнешні дзень, знаходзіцца ў зусім дрэнным становішчы.

Пры аглядзе калгасаў Глускага раёну, у час складаньня рабочых плянаў, можна было бачыць, што ў некаторых калгасах наогул не вядзецца ніякага вучоту; нават прадукты і інш. выдаюцца калгасьнікам бяз запісаў. У некаторых калгасах і кнігі рахункаводныя ёсьць, але ніхто ня ведаюць з чаго пачаць і што трэба запісваць у гэтыя кнігі.

Такія калектыўныя гаспадаркі, па прыкладу дробных сялянскіх гаспадарак, працуюць пакуль што ўсьляпую, а ўпацёмках намеціць шлях разьвіцьця, тэй ці іншай гаспадаркі, а таксама і галіны яе, амаль што немагчыма.

Таму зараз, калі мы ставім сваёй задачай арганізацыю працы ў калгасах, дык адначасова з гэтым выплывае і ня менш важнае пытаньне аб арганізацыі вучоту гэтай працы, наладжваньне рахункаводзтва ў калгасах.

Трэба, каб гэтаму пытаньню ўсе раённыя і акруговыя партыйныя органы ўдзялялі больш увагі. Трэба, каб гэтым пытаньнем зацікавілася ўся грамадзкасьць. Трэба больш адчыніць рахункаводных курсаў для калгасьнікаў, адшукаўшы сродкі для гэтае мэты.

Трэба, каб форма і мэтадалёгія рахункаводзтва была больш распрацована тэорэтычна і практычна, каб весь працэс вучоту быў простым і зразумелым, ад пачатку да канца, кожнаму калгасьніку.

Пажадана, каб на старонках часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ былі адчынены завочныя курсы па рахункаводзтву.

**А. Дымкоў.**

---

# Лепшае ўгнаеньне пад лён—азоцістае.

Адказная задача пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі бягучага году, зьвязаная з поўнай перабудовай вёскі на новых сацыялістычных асновах, высоўвае задачу, поруч з пашырэньнем агульнай пасеўнай плошчы, пашырэньне плошчы пад ільном і павышэньня яго ўраджайнасьці.

Ураджайнасьць ільнавалакна і насеньня ільну па Беларусі вельмі нізкая і адстае ад даваеннага ўзроўню. Пры ўраджаі ільнавалакна да вайны—4,16 дв. цэнт. з *га*, ураджай 1924 г. раўняўся 3,04 цнт., а ў 26—28 г.—1,9—2,5 цнт. на *га*. Гэта вельмі нізкія ўраджаі, яны ў 4—5 разоў меншыя за эўропэйскія, і задача—„дагнаць і выперадзіць перадавыя капіталістычныя краіны“ па ўздыму ўраджайнасьці лёну застаецца яшчэ нявыкананай. Таму неабходна ў самы кароткі тэрмін падняць ураджайнасьць такой важнай для Беларусі таварнай культуры, як лён. Вядома, што лён любіць добра ўгноеную і чыстую ад пустазельля глебу.

Практыка ільнаводзтва і працы дасьледчых устаноў паказвае, што пры пасеве ільну па канюшынішчы, ураджаі яго, у сярэднім, павышаюцца на 20—25 проц. у параўнаньні з ураджаем на трохполцы.

Павышэньне ўраджаю дае азот, які знаходзіцца на каранёх канюшыны. Азот гэты выпрацоўваецца клубяньковымі бактэрыямі, якія жывуць у асобных нарасьцях на карэньнях канюшыны.

Адначасна з падвышэньнем ураджаю, у залежнасьці ад выбару папярэдняй культуры, робяць уплыў на ўраджайнасьць і мінэральныя ўгнаеньні, а з іх пераважна азоцістыя ў спалучэньні з фосфарнымі.

Трохгадовыя досьледы Пскоўскай с.-г. дасьледчай станцыі сьведчаць, што пры ўгнаеньні салетрай і супэрфасфатам ураджай даўгога валакна павышаецца на 65 проц., а семя ўдвая або на 104 проц.

Цікава адзначыць, што ў другім досьледзе пры ўжываньні фасфарыту, які цяжка распушчаецца, як, напр.: фасфарыт у сумесі з сернакіслым амоніем і калійнай сольлю, ураджай даўгога валакна павысіўся на 125 проц., а семя на 54 проц., пры чым павышэньне ўраджаю даўгога валакна было куды большае, чымся пры ўнясеньні дарагіх і дэфіцытных угнаеньняў, як салетра і супэрфасфат.

Аналёгічныя вынікі атрыманы на аснове шматгадовых досьледаў на Энгельгардаўскай дасьледчай станцыі, Смаленскай губ. Салетра і сернакіслы амоні павысілі ўраджай валакна на 0,9—1 *цнт.* на *га*, а семя на 0,65 *цнт.* на *га*. Сумеснае ўгнаеньне сернакіслым амоніям з фасфарытам, у сярэднім, за 4 гады павысіла ўраджай ільнавалакна на 0,8 *цнт* на *га* і насеньня таксама на 0,8 *цнт.*

Досьледы з ільном геаграфічнай сеткі, праробленыя ў 1928 г. Навуковым Інстытутам, па ўгнаенью ў 18 пунктах нечорназемнай паласы

СССР, паказалі, што лён больш усяго патрабуе азоцістых угнаеньняў, што відаць з наступнай табліцы:

| Угнаеньне | Павышэньне ўраджаю ў %% |
|---|---|
| Фосфар і калі . . . . . | 13 |
| Азот і калі . . . . . | 32 |
| Азот і фосфар . . . . | 41 |
| „ „ і калі . . | 47 |

Нарэшце, папярэднія даныя досьледаў з угнаеньнем пад лён, праробленыя ў 1929 г. на Віцебскай с.-г. дасьледчай станцыі, пацьвярджаюць неабходнасьць угнаеньня глебы азотам, бо пры ўнясеньні азоцістых угнаеньняў ураджай сьцябла павышаецца ў $1^1/_2$ раза, а семя на 25—50 проц.

Цікава адзначыць, што і па досьледах Віцебскай с-г. дасьледчай станцыі камбінацыя фасфарыт-сернакіслы амоні ня толькі ня ўступае па свайму эфэкту, а нават перавышае ўраджай, які быў пры ўжываньні салетры і супэрфосфату.

Усе гэтыя меркаваньні кажуць аб тым, што ў наступную пасеўкампанію ў мэтах павышэньня ўраджаю ільну, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўжываньне мінэральных угнаеньняў. Падыходзіць да пытаньня пасеву ільну неабходна сур'ёзна, а ня так, як рабілася раней, калі лічылі, што пад лён можна класьці выключна калійную соль і супэрфасфат. Гэтыя ўгнаеньні ў большасьці выпадкаў не давалі ні якага эфэкту, а ў лепшым выпадку вельмі слабы, бо асноўная патрэба ў азоце ня была задаволена. Пад лён неабходна, разам з фосфарам і каліем, класьці і азот у выглядзе сернакіслага амонія.

Па вестках, якія маюцца, Віцебская акруга атрымала ў гэтую пасеўкампанію звыш 120 тон сернакіслага амонія. Неабходна Акрвыканкому і Калгассаюзу ўсю гэтую колькасьць сернакіслага амонія забраніраваць за ільнаводнымі раёнамі для ўгнаеньня выключна пад лён; сумесна з сернакіслым амоніем, трэба выкарыстаць мала прыдатны пад яравыя культуры фасфарыт. Ужываньне пад лён мінэральных угнаеньняў будзе ў гэтым годзе асабліва неабходным, бо пры сучаснай арганізацыі калгасаў, існаваўшы многапольны севазварот будзе замяняцца ўвядзеньнем новага, а значыцца лён ня ўсюды можна будзе сеяць па канюшынішчы.

Спэцыялісты па ільнаводзтву **Р. Мейерсон.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ і КАРМАВОЕ ПЫТАНЬНЕ



Адна з 80 матак іёркшыраў на сьвінзаводзе саўгасу Тэклеўка.

## Гістарычная задача

*(Да арганізацыі спэцыялізаваных дзяржаўных сьвінпрамгасаў)*

Разгорнуты тэмп індустрыялізацыі краіны шпарка павялічвае запатрабаваньні гарадоў у мясных прадуктах. Адсталая, зусім малатаварная жывёлагадоўля, распыленая па індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам і нават жывёлагадоўля унівэрсальных малапрадукцыйных калгасаў, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы—ліквідацыі, на базе суцэльнай калектывізацыі, кулака як клясы, ня можа вырашыць гэтых задач. Патрэбна карэнная рэканструкцыя жывёлагадоўлі праз арганізацыю дзяржаўных спэцыялізаваных, сапраўды буйных, высокатаварных фабрык мяса, малака і масла. Пасьля зярнёвай праблемы, на шляху вырашэньня якой партыя дабілася грандыёзных посьпехаў, праблема мяса зьяўляецца важнейшай эканамічнай палітыкай партыі і ўраду, без вырашэньня якой нельга хутка зьнішчыць цяжкасьці ў справе забясьпечаньня прадуктамі спажываньня пралетарскіх мас.

Для вырашэньня гэтых задач павінны быць скарыстаны ў поўнай меры, побач з галіной буйнай жывёлагадоўлі, хуткасьпелыя галіны дробнае жывёлагадоўлі (сьвінагадоўля, птушніцтва, кролікі, рыба), па якіх трэба ва ўдарным парадку вычэрпаць усе нашы мажлівасьці і праз іх рэальна пачаць выкананьне гэтых задач.

Асабліва адказная роля падае на сьвінагадоўлю. Зьяўляючыся аднэй з інтэнсыўнейшых галін, якая дае высокакаштоўны, хуткасьпелы спажыўны прадукт, сьвінагадоўля павінна быць і будзе адным з найбольш карысных відаў экспарту. Скарыстоўвая розныя адкіды с.-г. прамысловасьці малочнае і палявое гаспадаркі, сьвінагадоўля павялічвае яе эканамічную карыснасьць.

Кліматычныя і глебавыя ўмовы спрыяюць шырокаму разьвіцьцю гэтае галіны. Аб вялікіх пэрспэктывах яе паказвае той факт, што БССР

мае найбольшую шчыльнасьць сьвінога пагалоўя, чымся ў іншых мясцовасьцях Савецкага Саюзу.

Нізкі ўзровень, малатаварнасьць сьвінагадоўлі, што зьяўлялася да гэтага часу вынікам не адсутнічаньня ўмоў, а распыленнасьці гаспадарак. Толькі на базе буйных спэцыялізаваных савецкіх і калектыўных гаспадарак мажліва рэальна забясьпечыць выкананьне гэтых задач.

Выходзячы з гэтага, партыяй і ўрадам прыняты пастановы аб арганізацыі спэцыялізаваных прамысловых савецкіх гаспадарак, якія-б у якасьці сваёй асноўнай задачы разгарнулі масавую вытворчасьць прадукцыйнай сьвінагадоўлі, ліквідаваўшы шкодны унівэрсалізм і сама-



Знадворны выгляд хлява для сьвіней у сьвінагадоўчым заводзе саўгасу Тэклеўка, Уваравіцкага р-ну, Гомельскай акругі.

тужніцтва, які мы маем па саўгасах да гэтае пары. Для правядзеньня гэтай адказьнейшай работы арганізаван Усесаюзны Сьвінаводны Трэст, які ўжо пачаў прыёмку 45 саўгасаў з ліку саўгасаў Белсельтрэсту.

Задачай выдзяляемых саўгасаў зьяўляецца вырашчваньне бэконнага матар'ялу. Ісходным матар'ялам, з якім павінна быць разгорнута работа, будзе зьяўляцца мясцовая сьвіньня і ангельскія кныры племзаводаў і рассаднікаў. Як даводзіць Цэнтральная Сьвінаводная станцыя, лепшым бэконным матар'ялам будуць зьяўляцца мешанцы гэтых гатункаў. Мажлівай нагрузкай на адзін гектар пахаці прымаецца на бліжэйшы час 0,5 сьвінаматкі. Гэтая норма мяркуецца, выходзячы з таго, каб асноўную масу кармоў атрымоўваць непасрэдна ў гаспадарцы, а завозіць толькі 25—30 проц. моцных кармоў.

Неабходнасьць фарсаванага ўкамплектаваньня матачнага пагалоўя і пачатку выпуску таварнай прадукцыі патрабуе, каб зараз-жа была разгорнута работа ня толькі па ўкамплектаваньні сьвінаматак у прынятых нормах, але і пашырэньня стада ў сувязі з патрэбным узбуйненьнем саўгасаў. У сувязі з чым праэктуецца дадаткова закантрактаваць, альбо нарыхтаваць яшчэ па аднаму падсьвінку-матцы на 1 *га*. Гэткую нагрузку мажліва прыняць толькі пры наступных абавязковых умовах:

1. Абавязковага на справе ўзбуйненьня саўгасаў яшчэ ў 1930 г., на грунце пастановы Саўнаркому ад 22-III з тым, каб у 1931 г. адна сьвінаматка прыходзілася на 2 гектары пахаці.

2. Максымальнай мэханізацыі вытворчых працэсаў усіх галін савецкіх гаспадарак і вызваленьня кармоў, якія выдаткоўваліся на рабочых коняй, для патрэб сьвінагадоўлі.

3. Абавязковага завозу канцэнтраваных кармоў у разьмерах, якія-б поўнасьцю пакрылі патрэбнасьці гэтага году.

4. Максымальнага пашырэньня пасеваў кармовых культур ужо з гэтага году з тым, каб усе пасевы гатунковых культур, пасьля іх збору, былі поўнасьцю заменены на кармовы матар'ял.

Аб'ём прац у сувязі з арганізацыяй 45 сьвінаводных гаспадарак і выдаткаў толькі па галіне сьвінагадоўлі паказан у наступных лічбах:

| Усяго саўгас. | Гектар. пахаці | Матачн. ядро | Подсьв. для рас-шыр. і адкорму | Неабходна пабудаваць | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Матачнікаў | Адкорм. | Жыл. дамоў | Ізалят. | Кухні |
| 45 | 17,754 | 8940 | 16400 | 57 | 162 | 55 | 49 | 51 |

З агульным фінансаваньнем на ўсё паказанае, а таксама іншыя выдаткі па водазабясьпечаньню і сіласнаму будаўніцтву — 5.982.650 руб.

Гэта паказвае на вялізарны размах, на небывала адказныя задачы па выкананьню праграмы ўкамплектаваньня сьвінаматкамі і будаўніцтва.

Будаўніцтва спраэктавана самых дзяшовых тыпаў і з мясцовых будаўнічых матар'ялаў. Прыняты два тыпы будынкаў: уцяплёны, больш дарагі, для матак і спрошчаны для адкорму, спраэктаваныя па заданьню Сьвінаводнай станцыі. Усялякія збыткоўнасьці ў будаўніцтве павінны разглядацца, як злачыннае разбазарваньне дзяржаўных грошай.

Аднэй з рашаючых праблем у выкананьні гэтае справы зьяўляюцца кадры. Сьвінпрамгасам патрэбна безадкладна для пачатку работ, мінімум 100 тэхнікаў сярэдняй кваліфікацыі, а таксама патрэбна значна больш старэйшых сьвінароў і падрыхтаваныя кадры рабочых. Ня трэба падкрэсьліваць, што гэтых кадраў зараз няма. Толькі пры ўмове вэтэрынарнага закону мажліва будзе з посьпехам арганізаваць сьвіное пагалоўе, асабліва ў першы час, калі трэба будзе зьбіраць сьвінаматак з адкормачных пунктаў, весьці нарыхтоўку і кантрактацыю пры надзвычайнай зачумленасьці асобных пунктаў.

Бліжэйшымі практычнымі задачамі, на якія трэба накіраваць увесь агонь творчага энтузіазму рабочых калактываў, цьвёрдую настойлівасьць адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, партыйных і прафсаюзных арганізацый, павінны быць:

1. Безадкладны пачатак высечкі лесу для пабудоў, згодна пастановы Саўнаркому і дырэктывы дадзенай НКЗ лясьніцтвам, дастаўка яго ў саўгасы і падрыхтоўка іншых неабходных будаўнічых матар'ялаў. Гэтаму павінны ўсямерна дапамагчы, асабліва з арганізацыяй рабсілы, РВК, сельсаветы і лясьніцтвы.

2. Безадкладнае разгортваньне непасрэдна будаўніцтва і ў першую чаргу сьвінарнікаў-адкормачнікаў, каб мець мажлівасьць хутка ўкамплектаваць стада. Якія-б цяжкасьці не сустракаліся,—будаўнічая праграма павінна быць выканана поўнасьцю.

3. Безадкладнае ўкамплектаваньне матачнага ядра шляхам адбору сьвінаматак, годных для племянных мэт з адкормачных пунктаў ЦРК, Белмяса, Белкаапсаюзу і саўгасаў, непасрэднай нарыхтоўкі, як дарослых сьвінаматак, гэтак і контрактацыі маладняку.

На работу па ўкамплектаваньні стада павінны быць вылучаны спэцыяльныя работнікі пад непасрэднай адказнасьцю кіраўніка саўгасу, што праводзіць гэту адказьнейшую работу. Ударнае выкананьне гэтай работы павінна быць цьвёрда ўвязана з дасканалым выкананьнем запатрабаваньняў вэтэрынарыі, бязьлітаснай барацьбой за малейшае адступленьне. Укамплектаваньне абавязковага карантыну прыбываючых сьвіней і па-за межамі сядзібы саўгасу і вымагае іншых практычных запатрабаваньняў вэтэрынарыі.

4. Хутчэйшае ўкамплектаваньне вэтэрынарнымі ўрачамі як ужо працуючымі, гэтак і тымі, якія канчаюць у бліжэйшы час, забясьпечаньне матар'яламі для прышчэпкі і патрэбным інструмантам. Да ўкамплектаваньня вэт. урачамі сьвінпрамгасаў уся адказнасьць за вэтэрынарнае абслугоўваньне павінна быць ускладзена на вэт. працаўнікоў раёнаў.



Саўгас Тэклёўка. Выгляд хлява ў сярэдзіне.

5. Вырашэньне праблемы кадраў кіраўнікоў, тэхнікаў і кваліфікаваных рабочых, павінна быць пастаўлена на практычныя рэйкі.

Па-мойму, бясспрэчнымі зьяўляюцца наступныя мерапрыемствы:

а) арганізацыя спэцыяльнага тэхнікуму па сьвінагадоўлі з разгортваньнем яго работы з жніўня месяца г. г. Лепшым месцам для гэтага зьяўляецца Цэнтральная Сьвінаводная Станцыя;

б) безадкладная арганізацыя курсаў для падрыхтоўкі патрэбнай колькасьці старэйшых сьвінароў;

в) арганізацыя ўжо з гэтага году ня менш аднэй школы сельгасвучнёўства для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых у галіне сьвінагадоўлі.

6. Патрэбна рашучая ліквідацыя невуцтва, самага дзікага драпежніцтва, якое існуе яшчэ ў галіне сьвінагадоўлі ў саўгасах. Трэба, каб ня толькі кіраўнікі, старэйшыя сьвінары, але і рабочыя, шляхам экскурсій, арганізавана пазнаёміліся з законамі і ўмовамі лепшага разьвіцьця сьвінагадоўлі. Катэгарычна патрэбна выканаць першачарговы мінімум у галіне сьвінагадоўлі і, у першую чаргу, забясьпечыць сьветам, паветрам і пашай сьвіное пагалоў'е, вызваліўшы іх з „турам", у якіх яны вельмі часта знаходзяцца. Катэгарычна спыніць неарганізаванае паступленьне сьвіней у сьвінпрамгасы; бяз пропуску праз каранцін ніводная сьвіньня не павінна быць дапушчана ў агульнае стада.

7. Саўгасы ўжо зараз, з пачатку сваёй арганізацыі, павінны ўлічыць абавязкі і быць прыкладам арганізуючыхся спэцыялізаваных саўгасаў, аказваючы ім усямерную арганізацыйную і агравытворчую дапамогу, выконваючы вэтэрынарныя патрабаваньні з самага пачатку арганізацыі сьвінпрамгасаў.

Саўгасы на выкананьне гэтых вялізарных задач трымаюць палітычны і гаспадарчы экзамін. Яго трэба вытрымаць, якія-б цяжкасьці гэта не выклікала. Лепшым мэтадам, мацнейшай падставай гэтага павінна зьявіцца сапраўднае бальшавіцкае спаборніцтва і ўдарніцтва. Трэба з самага пачатку забясьпечыць рэальную барацьбу за нізкі сабекошт вытвараемай прадукцыі.

За арганізацыю працы, за цьвёрдую дысцыпліну і высокую вытворчасьць, за гэтыя зьвеньні трэба ўзяцца з усёй сілай, каб выцягнуць увесь ланцуг пастаўленых задач.

Пад кіраўніцтвам партыі задачы па стварэньню прамысловых сьвінаводных фабрык мяса—павінны быць выкананы.

г. Менск. Белсельтрэст. **Т. Аўчыньнікаў.**



# ПРА ВЫСТАЎКУ



На пабудове выстаўкі.

## Падрыхтоўка экспанатаў да Ўсебеларускай Выстаўкі.

Па пастанове Ўраду БССР у ліпені-жніўні месяцы 1930 г. у гор. Менску адчыняецца Першая Усебеларуская Выстаўка сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Задачай Першай Ўсебеларускай Выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці Савет Народных Камісараў БССР вызначыў наступнае:

Адбіць кіруючую ролю камуністычнае партыі ў сацыялістычным будаўніцтве БССР пад лёзунгам: „Партыя і Ленін у сацыялістычным будаўніцтве“.

Паказаць усе дасягненьні за час існаваньня БССР у сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі і выявіць усе перашкоды ў сацыялістычным будаўніцтве і асабліва па калектывізацыі.

Арганізаваць усебеларускі агляд трэба так, каб вопыт нашых посьпехаў у сацыялістычным будаўніцтве перадаць для хутчэйшага выкананьня пяцігодкі. Усебеларуская Выстаўка павінна зьявіцца школай для выхоўваньня актыву па выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

Адчыненьне Выстаўкі прыстасавана да сьвяткаваньня 10-годзьдзя вызваленьня БССР ад абшарнікаў і капіталістых.

Аб тым, як будзе арганізавана Выстаўка, мы тут затрымліваццa ня будзем, бо аб гэтым ужо друкавалася ў часопісу і ёсьць літаратура, якая дэталёва высьвятляе структуру Ўсебеларускай Выстаўкі.

У гэтым артыкуле будзе коратка выяўлена тэхніка падрыхтоўкі экспанатаў да Першай Усебеларускай Выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці.

### Як будуць адбірацца экспанаты

Для адбору экспанатаў на мясцох утвараюцца камісіі—па расьлінагадоўлі, жывёлагадоўлі і мясцовай прамысловасьці. Камісіі вызначаюцца Акруговымі Выставачнымі Камітэтамі як у акругах, так і раёнах у тэрміны, якія адпавядаюць часу здачы экспанатаў.

Падрыхтоўка экспанатаў будзе ісьці ў такім кірунку:

Гісторыя разьвіцьця сацыялістычнага земляробства і прамысловасьці, сучаснае становішча і перспэктывы іх разьвіцьця па пяцігадоваму пляну.

Каб уявіць у якой паступовасьці будуць здавацца экспанаты, трэба коратка затрымацца на тым, якія галіны сельскай і лясной гаспадаркі і прамысловасьці трэба выявіць экспонатамі.

1. Расьлінагадоўля—ральніцтва: зернявыя культуры, кораньплоды і клубеньплоды, кармовыя расьліны, гародніцтва, лугаводзтва, спэцыяльныя культуры: лён і каноплі, садоўніцтва, ужываньне штучнага ўгнаеньня і ахова расьлін: пустазельле і шкоднікі сельскай гаспадаркі.

2. Жывёлагадоўля—буйная жывёла—(каровы і коні), дробная жывёла (сьвіньні, авечкі), птушніцтва, пчалярства і кормаздабываньне.

3. Мэханізацыя і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі—с-г. машыны і прылады, мэханічная энэргія і электрычнасьць.

4. Сельгасбудаўніцтва.

5. Мэліарацыя, торф і культура балот.

6. Дасьледчая справа.

7. Лясная гаспадарка.

8. Прамысловасьць—усесаюзная, рэспубліканская, мясцовая і саматужная.

### Тэхніка адбору экспанатаў

**Ральніцтва**. Па гэтаму аддзелу зьбіраюцца ўсе расьліны поля наступным чынам: кожная гаспадарка, якая рыхтуецца па ральніцтву, адбірае экспанаты з плошчы, на якой расьце расьліна, разьмерам адзін квадратовы мэтр. Расьліны вырываюцца з карэньнем, абмываюцца, зьвязваюцца ў адзін сноп і ў такім выглядзе здаюцца на раённы агляд. У кожным раёне рыхтуюцца ўсе гаспадаркі, а экспанаты бяруцца ў сярэднім ад 10 гаспадарак з кожнага раёну. Адначасна са здачаю снапоў здаюцца ў мяшэчках і ўзоры насеньня гэтае расьліны ня менш аднаго кілёграму. Узоры кармовых траў таксама здаюцца ў снопіках. Насеньне кармовых траў здаецца па поўкілёграма, а вікі ня менш кілёграма. Снопікі трэба добра перавязаць (лепш у трох мясцох—уверсе, унізе і ў сярэдзіне), каб яны не псаваліся. Кораньплоды здаюць па 5 штук кожнага гатунку, а клубняплоды 4—6 кілёграмаў кожнага гатунку. Здаюць тыя гатункі, якія пераважна знаходзяцца ў гаспадарцы.

**Гародніцтва.** Кожнага гатунку гародніны, у залежнасьці ад яе велічыні, выбіраецца і дасылаецца ад 5 да 20 экзэмпляраў.

**Па садоўніцтву** адбіраюцца экспонаты і кожнага гатунку бярэцца ня менш 10 пладоў, каб можна было скласьці групку кожнага гатунку.

**Лён і каноплі**—ільняной саломы і канапель трэба мець снопік вагой адзін кілёграм, добра высушаны. Валакно ад кожнага гатунку трэба дастаўляць 1 кілёграм і па поўкілёграма: лёну часанага, кудзелі, паклі і ахлоп'я. Трэба ад ураджаю 1929 г. сабраць усе абразкі па гэтаму ўказаньню. Праўда, мо' дзе і ня знойдзецца саломы, але дзе яна ёсьць, дык трэба адабраць. Усе віды першапачатковае апрацоўкі трэба нарыхтаваць зараз-жа. Асабліва трэба падрыхтавацца па лёну Віцебшчыне, Полаччыне і Аршаншчыне, як акругам ільнаводным.

**Штучнае ўгнаеньне**—будзе дэманстравацца ў натуры, у полі і да сьледчымі станцыямі.

**Ахова расьлін**--зьбіраецца ўсё пустазельле на мясцох у выглядзе калекцыі і трэба сабраць усіх шкоднікаў, якія маюцца ў сельскай гаспадарцы. Усе шкоднікі зьбіраюцца з расьлінай, якую яны паядаюць, псуюць ці зьнішчаюць, саджаюцца ў скрыначкі і накіроўваюцца



Павільён земляробства.

ў Менск, Шырокая, 28, на імя НДІ (на пасылцы трэба пісаць *дарэмна*. На падставе пастановы СНК БССР ад 4-VII—26 г. і абежніка НКП і Т ад 10-VIII—27 г. № 37-310). У скрынку трэба пакласьці цэтлік (эцікетку) з адзнакай—з якой акругі, раёну, сельсавету і гаспадаркі накірован шкоднік.

**Жывёлагадоўля**—экспонаты жывыя: каровы, коні, сьвіньні і авечкі рыхтуюцца ў кожнай гаспадарцы на працягу ўсяго часу да моманта пасылкі на Выстаўку. Кожная гаспадарка аграмаджанага сэктару павінна адабраць з статку лепшы экзэмпляр па прадукцыйнасьці і пародзе. Усе жывыя экспанаты трымаюцца ў гаспадарках пад асобным доглядам—вядзецца запіс удояў, кармоў і інш. Адбор жывых экспанатаў робіцца на раённых Выстаўках—выводках, якія вызначаюцца акрвыстаўкамі. Тут будуць выстаўлены птушкі і трусы. Кожная гаспадарка павінна максімум увагі аддаць адбору экспонатаў, каб у сапраўднасьці выбраць лепшае, будуць паказаны і экспанаты перапрацоўкі малака, якія рыхтуюцца на мясцох Акрмалжывёлсаюзамі.

**Мэханізацыя і электрыфікацыя сельскай гаспадаркі**—па гэтаму аддзелу рыхтуе экспонаты Наркамзем БССР сумесна з каапэрацыйнымі арганізацыямі.

**Сельгасбудаўніцтва**—узоры мясцовых вырабаў: чэраціцы, цэглы і ўзоры матэрыялаў, з чаго ўсё гэта вырабляецца ў акрузе. Па кожнай акрузе вызначаецца да 5 агнятрывалых т-ваў, ад якіх выстаўляецца па 2 цэмантных і гліняных чэрапіцы, 2 цэглы і 2 кілёграма вапны. Экспанаты павінны былі ўжо пасгупіць да гэтага часу ў НКЗБ.

**Мэліарацыя, торф і культура балот**—абразкі торфу, ураджаі культуры балот за 1929 г. павінны быць ужо дастаўлены ў НКЗБ. Экспанаты з культуры балот бяруцца з 0,5 кв. мэтра ў снопіках, а насеньне зернавых і тэхкультур дасылаецца к абразку па 2 кілёграмы.



Лясны павільён.

**Дасьледчая справа**—яна рыхтуецца дасьледчымі станцыямі БССР і будзе выстаўлена ў асобным павільёне.

**Лясная гаспадарка**—па асобнаму заданьню Ляснога Кіраўніцтва, Лясьніцтвы на мясцох вядуць нарыхтоўку экспонатаў. Дастаўка экспонатаў па лясному аддзелу павінна быць скончана ў асноўным к 1 сакавіку 1930 г.

**Прамысловасьць**: усесаюзная—рыхтуе экспанаты па заданьню сваіх трэстаў, рэспубліканская—рыхтуе экспанаты па заданьню ВСНГ і трэстаў, а таксама заводы і фабрыкі прапрацоўваюць пытаньне аб дастаўцы на Выстаўку лепшых вырабаў; мясцовая—выстаўляе экспанаты мясцовай прамысловасьці па асобнаму заданьню Акрвыстаўкомаў, а саматужная—падрыхтоўвае ўсе экспонаты, якія выпрацоўваюцца ў сыстэме саматужнай каапэрацыі.

**Што трэбуецца ад экспаната.** Каб экспанат быў прыняты на Выстаўцы, ён павінен мець пры сабе пашпарт, з якога будзе відаць паходжаньне экспанату і на падставе гэтага можна будзе даваць тую ці іншую ацэнку.

Экспанат бяз пашпарта нічога ня варты.

**Што патрабуецца ад экспанэнта.** Экспанэнт, які выстаўляе свае экспанаты, павінен мець запоўненую анкету на гаспадарку ці на прадпрыемства, з якой можна бачыць адкуль экспанат і толькі на падставе гэтага ўжо даецца тая ці іншая ацэнка.

Экспанат без анкеты ці адпаведных зьвестак на Выстаўку ня прымаецца.

### Як арганізаваць падрыхтоўку экспанатаў

Кожная гаспадарка аграмаджанага сэктару, бядняцка-серадняцкая і прадпрыемствы павінны зараз-жа праверыць: што зроблена з боку падрыхтоўкі экспанатаў і вызначыць канкрэтны ўдзел па падрыхтоўцы гаспадаркі ці прадпрыемства да Выстаўкі.

Без папярэдніх плянаў гаспадарка ці прадпрыемства ня здолеюць належным чынам падрыхтаваць экспанатаў, бо экспанаты рыхтуюцца загадзя.

**Графічныя экспанаты.** Экспанаты, якія высьвятляюць эканоміку народнае гаспадаркі, а таксама асобных гаспадарак і прадпрыемстваў— рыхтуюцца цэнтралізавана, а падрыхтоўка графічных матар'ялаў— дыяграм ці картаграм, робіцца па ўзгадненьню з асобнымі сэктарамі і аддзеламі Дырэкцыі Выстаўкі, ці акрвыстаўкомамі. Усе графічныя матар'ялы павінны адбіць дынаміку росту абавязкова з 1920 г., г. зн. за 10 гадоў.

Гэта кароткія ўказаньні аб падрыхтоўцы экспанатаў, бо акрвыстаўкомы і Райвыстаўкомы маюць падрабязныя інструкцыі аб падрыхтоўцы экспанатаў на першую Ўсебеларускую Выстаўку Сельскай Гаспадаркі і Прамысловасьці.

**К. Кіпрыянец.**

Менск, Галоўвыстаўком.

---

# Жывёлаводзтва на выстаўцы

Значэньне жывёлаводзтва ў сельскай гаспадарцы можа быць ахарактарызавана тэй удзельнай вагой, якую займае яе прадукцыя ў сельскай гаспадарцы БССР.

Па даных за 1926-27 г. і 1927-28 г. г. бачым[1]), што 40 проц. усёй прадукцыі, якую дае наша сельская гаспадарка, і звыш 50 проц. яе таварнай часткі складае прадукцыя жывёлаводзтва. Гэта значыць, што жывёлаводзтва зьяўляецца галоўнейшай галіной нашае гаспадаркі.

Урадам БССР улічана вялізарнае значэньне жывёлаводзтва Беларусі, што відаць з наступнай пастановы СНК Бел. ад 29-VIII-29 г.

„Наркамземляробства, Акруговым Выканаўчым Камітэтам і с.-г. каапэрацыі паставіць працу па жывёлагадоўлі ў цэнтры ўвагі, прыстасаваўшы мерапрыемствы па расьлінаводзтву (севазвароты, вырасьліваньне кармавых траў, кораньплодаў, сіласаваньне і інш.) да задач разьвіцьця жывёлагадоўлі“.

Але тэмп разьвіцьця жывёлаводзтва яшчэ значна адстае ад запатрабаваньняў гарадоў на яго прадукцыю і экспартныя магчымасьці БССР у прадукцыі жывёлаводзтва знаходзяцца яшчэ толькі ў зачатко-

---

[1]) Брошура Я. М. Ляховіч—„Цяпленьне і абсталяваньне хлявоў, выданьне НКЗБ—1929 г.

вым разьвіцьці. Галоўнейшым тормазам слабага разьвіцьця жывёлаводзтва БССР зьяўляецца надзвычайна дробная і распыленая індывідуальная сялянская гаспадарка Пры гэтакім становішчы справы ня можа быць і рэчы аб спэцыялізацыі гаспадаркі, пры якой галіне жывёлаводзтва была-б удзелена належная ўвага.

Жывёлаводзтва ў нас пакуль што дробнае і малапрыбытковае, а таму ў сваёй большасьці не зьяўляецца таварным, абмяжоўваюцца здавальненьнем натуральных патрэб самой гаспадаркі. Спажывецкі тып дробнай с.-г. ня можа скарыстаць дасягненьняў тэхнікі і афяраваны на адставаньне ў разьвіцьці, а разам з гэтым зьяўляецца тормазам рэканструкцыі с.-г. на соцыялістычных пачатках.

Навейшыя дасягненьні тэхнікі вядзеньня с.-г. наогул і асабліва жывёлаводзтва прымушае вузка спэцыялізаваць паасобныя яе галіны, як, напрыклад: малочную справу, бэконнае сьвінаводзтва, птушкаводзтва і г. д.

Толькі максымальная спэцыялізацыя паасобных галін жывёлаводзтва дасьць магчымасьць дасягнуць належных вынікаў і вышэйшых прыбыткаў.

Усё вышэйсказанае выклікае неабходнасьць разьвіцьця жывёлаводнай справы на падставе арганізацыі саўгасаў і калгасаў з прымяненьнем навейшых дасягненьняў тэхнікі.

Сказанае вышэй цалкам пацьвярджаецца і практыкай належна арганізаваных буйных сацыялістычных гаспадарак нашага Саюзу.

Для таго, каб у больш хуткі час скарыстаць ужо дасягнутыя веды і тэхніку ў разьвіцьці жывёлаводзтва, побач з сыстэматычным вылучэньнем гэтых ведаў, зьяўляецца зусім неабходным непасрэдны абмен ведамі і вопытам на месцы ў самай вытворчасьці шляхам дэманстрацыі гэтых рэчаў, іх мадэляў, чарцяжоў, малюнкаў і г. д.

Акрамя агляду і вывучэньня жывёлаводзтва непасрэдна ў гаспадарцы, канкрэтнай формай арганізацыі перадачы ведаў і дасягненьняў у жывёлаводзтве можа быць сельска-гаспадарчая выстаўка.

Арганізуемая ў ліпені-жніўні месяцы 1930 г., 1-ая Ўсебеларуская Выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці мае сваёй мэтай у галіне жывёлаводзтва паказаць шырокім працоўным масам дасягненьні, атрыманыя за мінулае дзесяцігодзьдзе, пасьля аслабаненьня БССР ад белапалякаў, паказаць перавагу буйных колектыўных форм землякарыстаньня над адсталай дробнай і распыленай індывідуальнай сялянскай гаспадаркай, паказаць шляхі гэтага пераходу і перавагу арганізацыі і ўтрыманьня буйных спэцыялізаваных жывёлаводных статкаў перад дробным індывідуальным сялянскім жывёлаводзтвам.

На Выстаўцы аддзел жывёлаводзтва будзе прадстаўлен у выглядзе наступных 9 пападдзелаў: 1) каняводзтва, 2) буйнай рагатай жывёлы, 3) сьвінаводзтва, 4) птушкаводзтва, 5) трусаводзтва, 6) малочнай гаспадаркі, 7) кормаздабываньня і 8) вэтэрынарыі.

Кожны з відаў жывёлы і птушкі будзе разьмешчаны ў спэцыяльна пабудаваных і абсталяваных павільёнах. Павільёны для жывёлы будуюцца лёгкага тыпу. Падлогі і абсталяваньне робяцца пераважна ўзорныя.

Усяго будуецца 14 павільёнаў, з якіх 9 павільёнаў па паўкругу ўпіраюцца ў апошні сваімі канцамі, а рэшта 5 непасрэдна за гэтымі павільёнамі.

Жывёла і птушка будуць прадстаўлены на выстаўцы пераважна з сэктараў саўгасаў, калгасаў і каапэрацыі. Жывёла будзе прадстаўлена ўсіх парод і адродзьдзяў, якія добра зарэкамэндавалі сябе ў БССР

як з боку высокай іх прадукцыйнасьці, гэтак і з боку прыстасаванасьці да нашых кліматычных умоў і да ўмоў утрыманьня. Падрыхтоўка жывёлы і інш. экспонатаў да выстаўкі вытвараецца акругамі, згодна накіраваных ім плянаў і інструкцый.

## Карантын і ізалятар

У мэтах папярэджаньня заносу на тэрыторыю Выстаўкі заразьлівай хваробы, уся прыбываючая ў Менск выставачная жывёла і птушка будзе падлягаць карантыну ў будуемым на гэта памяшканьні. Прычым жывёла, якая захварэе, накіроўваецца ў спэцыяльна-прыстасаваны ізалятар і ўжо адтуль на выстаўку не паступіць. Захварэўшая на заразьлівую хваробу на выстаўцы жывёла накіроўваецца ў ізалятар, а рэшта, звычайна хворая жывёла, для аказаньня ёй вэтлекавай дапамогі, будзе накіроўвацца ў вэтлазарэты, ці вэтамбулаторыі.

## Каняводзтва

Усяго мяркуецца прапусьціць праз выстаўку 250 коняй у чатыры прыёмы. Стала на выстаўцы будзе знаходзіцца 100 коняй. Па тыпу коні будуць прадстаўлены: цяжкалавозы, рысістыя, верхавыя, мясцовыя палепшаныя. У выстаўцы прымуць удзел і вайсковыя часткі з іх коньмі.

Для коняй на выстаўцы пабудаваны 2 павільёны, адзін з іх выставачнага тыпу—для больш падрабязнага агляду каня, а другі дзеліцца на 2 часткі. Першая з гэтых частак па даўжыні стайні будзе прадстаўляць узорную дзяржаўную ці калгасную стайню для племянных коняй (выключна з дзеньнікамі), а другая частка—стайню для рабочых коняй саўгасу ці калгасу (з станкамі). У стайнях будзе праведзен вадаправод і электрычнасьць. Сярод лепшых коняй сацыялістычнага сэктару, між іншым, будзе прадстаўлена 40 коняй з дзяржаўнага коннага заводу БССР, будуць цэлыя сем'і (маткі і жарабкі з усім іх прыплодам).

## Буйнае рагатае жывёлаводзтва

Праз выстаўку будзе прапушчана ў 3 прыёмы буйнае рагатае жывёлы да 400 галоў, з іх на 82 проц. кароў і да 13 проц. быкоў і 5 проц. нецелей. Адначасова на выстаўцы будзе стала знаходзіцца 175 галоў. Жывёла будзе прадстаўлена, галоўным чынам, малочнага напрамку, але будуць групы і мясной жывёлы. Па пародах будуць прадстаўлены так: чырвоная беларуская, мясцовая палепшаная, ангельны, чырвоная нямецкая, швіцы, сымэнталы, галандцы, яраслаўская і інш.

Уся жывёла будзе разьмешчана ў 3 павільёнах—кароўніках. 2-радным, 4-радным і шматрадным (папярэчным). Усе кароўнікі будуць па магчымасьці абсталяваны ўзорна. Падлогі ў іх будуць забясьпечаны належнымі стокамі для жыжкі—каналізацыяй. Кармушкі і прывязі робяцца згодна апошняга амэрыканскага тыпу. Плошча сьвету будзе даведзена да максымальных разьмераў. Ува ўсіх кароўніках будуць зроблены аўтаматычныя паілкі і электрычнае асьвятленьне. Што датычыцца двухраднага кароўніка, дык ён мае быць абсталяваны па апошняму слову тэхнікі. Акрамя належна абсталяваных падлог, каналізацыі, спрошчаных амэрыканскіх кармушак, прывязей, аўтаматычных

паілак і электрычнага асьвятленьня, у іх будзе мэханізавана (на падвесных рэйках) падача корму і вывазка гною, будзе вытварацца мэханічнае даеньне і электрычная чыстка кароў. Пры самім хлеве будуецца сіласная вежа, у якой будзе закладзен сілас, для скармліваньня яго жывёлай у час выстаўкі.

### Сьвінаводзтва

Усяго праз Выстаўку мае быць прапушчана 330 сьвіней у 3 прыёмы. Адразу на выстаўцы будзе знаходзіцца 130 галоў. Па пародах сьвіньні будуць: чыстапародныя ангельскія буйныя белыя, мясцовыя, мясцовыя палепшаныя і розныя мяшанцы. Па напрамку сьвіньні будуць прадстаўлены сальнага, паўсальнага і бэконнага тыпу.

Уся жывёла разьмяшчаецца ў 2 сьвінарніках. Адзін выставачнага тыпу, а другі ўзорны сьвінарнік складзены з 2-х частак: 2-радны сьвінарнік з 1 агульным кармавым і гноевым праходам і 2-радны з 3-ма праходамі, з якіх 1 кармавы пасяродку і 2-х гноевых і для праходу сьвіней.

Кармушкі ў сьвінарніках будуць рознага тыпу: наглуха прымацаваныя, апракідваючыяся і падвешаныя (для матак з парасятамі) Сьвінарнікі будуць забясьпечаны вадаправодам і электрычным асьвятленьнем і вэнтыляцыяй.

### Аўчарства і казаводзтва

Усяго прадстаўляецца ў два прыёмы 100 галоў. З іх 90 авечак і 10 коз. Пароды авец будуць наступныя: мясцовыя, чыстапародныя і розныя мэтысы. Козы будуць прадстаўлены заанейскай пароды.

Авечкі і козы будуць разьмешчаны паасобна, але ў адным павільёне.

### Птушніцтва

Адначасова будзе дастаўлена на выстаўку 200 галоў птушак: курэй, гусей, качак і індыкоў—розных парод.

Для курэй будуецца ўзорны птушнік і для ўсёй птушкі арганізуюцца выгулы, забясьпечаныя вадаправодам.

### Трусаводзтва

Трусы прадстаўляюцца адначасова ў колькасьці 120 шт. Галоўнейшыя пароды будуць: мехавыя і мясныя (шаншала, белы фландр і інш.). Усе трусы прыбудуць у клетках. У клетках-жа будуць утрымоўвацца і на выстаўцы ў асобным павільёне.

### Комбікормачнае аддзяленьне

Асаблівы інтарэс будзе прадстаўляць на выстаўцы кармавое аддзяленьне, якое ў такім выглядзе будзе пабудавана ўпяршыню ў Саюзе.

У спэцыяльным двухпавярховым павільёна будзе арганізавана так званае комбікормачнае аддзяленьне для прыгатаўленьня кармоў і вытварэньня з іх розных мешанак, пры дапамозе розных машын, якія будуць прыводзіцца ў рух электраматорамі ці іншымі мэханічнымі

рухавікамі. Галоўнейшымі з машын там будуць: сячкарня, корань-клубня-мойка, карнярэзка, запарнікі, бульба-мялка, макухадрабілка, зернамялка, зернадрабілка, машына-электрамагніт для аслабаненьня кармоў ад шкодных мэталёвых рэчаў, машына для вытварэньня мешанак розных кармоў. Прыгатаваныя такім чынам кармы тут-жа будуць пагружацца на спэцыяльныя падвесныя цялежкі і накіроўвацца ў хлявы па падвеснаму рэйкаваму шляху.

## Мэханізацыя скотных двароў

Адначасова з арганізацыяй буйных жывёлаводных гаспадарак паўстае пытаньне аб арганізацыі справы абслугоўваньня жывёлаводзтва, з мэтай удзешаўленьня адзінкі прадукцыі і замены жывой рабочай сілы—машынай.

Асабліва складаным становіцца пытаньне абслугоўваньня малочнай жывёлы, дзе побач з раздачай 3 разы ў дзень корму і ўборкі гною, неабходна 3 разы ў дзень вытвараць даеньне, падмываць вымя і чысьціць кароў.

Калі ў дробных гаспадарках усе гэтыя працэсы ня строга ўлічваюцца і часта дрэнна выконваюцца, дык у буйнай гаспадарцы гэтыя недахопы зусім не дапушчальны, бо могуць вызваць вялікія страты.

Усю мэханізацыю скотнага двара магчыма падзяліць на такія групы:

1) мэханізацыя паеньня,
2) мэханізацыя транспарта (падача корму і вывазка гною),
3) мэханізацыя комбікормачнага аддзяленьня,
4) мэханізацыя даеньня,
5) мэханізацыя чысткі жывёлы.

Усе пералічаныя працэсы мэханізацыі будуць прадстаўлены на выстаўцы ў наступным выглядзе.

### 1. Вадазабясьпечаньне

Па лініі кругу, на які апіраюцца сваімі канцамі павільёны, будзе праведзена галоўная магістраль вадаправоду, адкуль вада па дадатковых трубах будзе падавацца ўва ўсе павільёны. Прычым у кароўніках праз спэцыяльныя паілкі вада будзе падавацца кожнай карове, а ўрэшце павільёнаў будзе ўстаноўлена па некалькі водаразборных кранаў. Акрамя таго, у кожным павільёне будуць пастаўлены супроцьпажарныя краны.

### 2. Мэханізацыя транспарта

Па таму-ж кругу будзе пралажаны паветравы рэйкавы шлях, ад якога праз спэцыяльныя пераводныя стрэлкі будзе паступаць з комбікормачнага аддзяленьня ў скотныя двары корм у спэцыяльных цялежках. Гэтыя цялежкі па падвеснаму шляху будуць праходзіць уздоўж кармавых праходаў для аддачы корму ў кармушкі. Пасьля чаго цялежкі ізноў паступаюць па таму-ж шляху ў комбікормачнае аддзяленьне. Акрамя таго будуць ужывацца і наземныя цялежкі з электраматорамі.

Для вывазкі гною па гноеваму праходу кароўніка будзе пралажаны пасобны паверхавы шлях.

### 3. Мэханізацыя комбікормачнага аддзяленьня

вытвараецца, як сказана раней, электраматорамі ці інш. мэханічнымі рухавікамі.

## 4. Мэханізацыя даеньня

Будзе вытварацца шляхам устаноўкі спэцыяльных даільных машын сыстэмы „Альфа-Лаваль“; „Момент“.

Мэханічнае даеньне кароў мае мэтай паказаць магчымасьць ускорыць працэс даеньня і замяніць ручное даеньне машынай.

## 5. Мэханізацыя чысткі

Наяўнасьць электрычнай энэргіі на скотным двары дае магчымасьць паскорыць і аблягчыць чыстку жывёлы і стварыць больш санітарнае ўтрыманьне хлява, шляхам арганізацыі электрычнай чысткі жывёлы.

На выстаўцы будзе арганізавана электрычная чыстка кароў пры дапамозе спэцыяльнага прыбору.

## Няжывыя экспонаты

Акрамя прадстаўленьня жывых экспонатаў у выглядзе жывёлы і птушкі і тыпавых скотных двароў, іх мэханізацыі і абсталяваньня, будзе прадстаўлена на выстаўцы ў спэцыяльных павільёнах: узорны маслазавод, з навейшым абсталяваньнем і мэханізацыяй працэсаў яго вытворчасьці і павільён няжывых экспонатаў, дзе сканцэнтруюцца розныя прадукты жывёлаводзтва, эканомічна-статыстычныя веды па жывёлаводзтву, кармавому пытаньню і намечаныя шляхі разьвіцьця жывёлаводзтва ў выглядзе: дыяграм, картаграм і плякатаў. Там-жа будуць прадстаўлены ўсякія мадэлі, макеты і розны жывёлаводны інвэнтар. Акрамя таго, будзе прадстаўлен належна абсталяваны пададдзел вэтэрынарыі.

У мэтах дэманстрацыі працэсаў рознастайных спрабаваньняў жывёлы па яе прадукцыйнасьці і інш. здольнасьці і прэміраваньне выдатнейшых экзэмпляраў, у час выстаўкі будуць праводзіцца конкурсы малочнасьці, яйцаноскасьці, адкорму і г. д.

На пярэдняй пляцоўцы перад павільёнамі жывёлаводзтва арганізуецца вывадка жывёлы для агляду і прэміраваньня з удзелам шырокіх працоўных мас, а за павільёнамі—арганізуюцца выгулы і загоны для пасьбы і прагулкі жывёлы і птушак.

У адным з павільёнаў будзе дэманстравацца інкубацыя (штучны вывад) птушак.

Акрамя таго на тэрыторыі Выстаўкі арганізаваны пасевы розных кармавых расьлін.

З усяго сказанага відаць, што аддзел жывёлаводзтва на Выстаўцы мае сваёй мэтай: даць магчымасьць працоўным масам праверыць свае дасягненьні за 10 год існаваньня БССР, абмяняцца вопытам у разьвіцьці жывёлагадоўлі і набыць новыя веды ў навейшых дасягненьнях навукі і тэхнікі абслугоўваньня жывёлаводзтва па шляху рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на сацыялістычных пачатках.

Дэманстрацыя на выстаўцы нашых дасягненьняў у жывёлаводзтве ёсьць пад'агульваньне барацьбы за новую соцыялістычную гаспадарку, за бурны ўздым жывёлаводзтва, за яго мэханізацыю, за замену працы чалавека машынай.

Ляховіч.

---

# З БАЛОТ ЗРОБІМ КУЛЬТУРНУЮ ПЛОШЧУ

## Арганізацыя мэліарацыйных прац на тарфяніках у калгаспадарках

У пэрыяд поўнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, у момант правядзеньня суцэльнай калектывізацыі і пабудовы буйных калектыўных гаспадарак—абгаварэньне пытаньняў арганізацыйнага характару зьяўляецца першачарговай неабходнасьцю. Усе практычныя матар'ялы па гэтых пытаньнях павінны шырока абгаварвацца ўсімі працаўнікамі калгаспадаркі. Пытаньне-ж арганізацыі мэліарацыйных прац на тарфяніках у калгаспадарках павінна быць пакладзена ў аснову першачарговых мерапрыемстваў і безадкладна вырашацца.



Выкапка канавы ў ручную.

Важнасьць пастаноўкі гэтага пытаньня выклікаецца, па-першае, тым, што мэліарацыйныя працы зьяўляюцца мерапрыемствамі, якія вырашаюць найбольш хворае пытаньне нашае гаспадаркі—кармовае, якое па сутнасьці зьяўляецца базай разгортваньня галоўнай галіны сельскай гаспадаркі—жывёлаводзтва. А, па-другое, мэліарацыйныя працы зьяўляюцца мерапрыемствамі па асваеньню няўжытковых зямель для скарыстаньня іх, як высокакаштоўных зямельных плошчаў, не адзначаючы ўжо каштоўнасьці гэтых прац у сэнсе вырашэньня пытаньняў апалу, гнаёвай праблемы і інш. Наогул-жа, трэба адзна-

чыць, што мэліарацыйныя працы ўжо поўнасьцю набылі патрэбную ацэнку ў гушчах працоўнага сялянства і лепшым, як-бы сьцьвярджаючым момантам зьяўляецца тое, што гэтыя працы за кароткі час свайго існаваньня ўжо глыбока і шырока ўжыты сялянствам нават у самых глухіх кутках нашае краіны. Рэзультатыўная частка гэтых прац таксама ўжо добра выяўлена ня толькі дасьледчымі ўстановамі (Менская Балотная станцыя, Забалацкае Балотнае поле), але і самім сялянствам, якое працуе аб'яднана ў мэліарацыйных таварыствах. (Старобінскае мэл. т-ва, Бабруйск. акр., Клімавіцкі раён, Шклоўскі раён, Магілеўскай акр.; мэл. т-ва па р. Грэбелька, Менскай акр. і г. д.).

Нам-жа зараз мэліарацыйную працу трэба пашырыць, у зьвязку з суцэльнай калектывізацыяй, у зьвязку з пабудовай буйных калектыўных, з навукова-тэхнічнымі абгрунтаваньнямі, гаспадарак. Трэба



Выгляд канавы, выкапанае ў ручную.

паставіць мэтай і дамагацца, каб усе гэтыя працы ў большасьці былі скончаны ў бліжэйшыя гады, з тым, каб мы здолелі адразу ў калгаспадарках падвясьці пад іх моцную кармовую базу і на поўных падставах нагадзіць галоўную галіну гаспадаркі—жывёлаводзтва.

Практыка правядзеньня мэліарацыйных прац у мінулым годзе ў калгаспадарках Магілеўшчыны дазваляе нам падкрэсьліць, што гэтыя працы не знайшлі поўнага адбітку ў агульнай працы калгаспадарак. Часта калгаспадаркі на справу мэліярацыі глядзелі як на нешта асобнае, нязьвязанае з гаспадаркай, нават як на нешта ў сучасны момант непатрэбнае і адзіным „красамоўным“ іх адказам было: „нам некалі займацца гэтай справай, мы зараз творым вялікую справу—абагульваем жывёлу, пачынаем будаўніцтва і г. д. (Крычаўскі раён).

Бязумоўна, надаючы вялікую ўвагу абагульваньню сродкаў вытворчасьці, трэба ўсё жткі памятаць, што правядзеньне мэліарацыйных прац, ёсьць таксама першачарговая неабходнасьць кожнае кал-

гаспадаркі. І калі разглядаць парадак арганізацыі сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, дык арганізацыя тэрыторыі, якая па сутнасьці зьяўляецца базай гаспадараньня ўсяго прадпрыемства, ёсьць першая грунтоўная праца.

Праўда, можна разглядаць арганізацыю тэрыторыі як нешта чыста тэхнічнае—абход зямляўпарадкавацеля па мяжы і пастаноўка слупоў,



Выкапка канавы машынаю.

але можна было так разглядаць гэтае пытаньне тады, калі мы будавалі гаспадарку і паступова падводзілі пад яе навукова-тэхнічныя асновы. Зараз-жа, калі мы спачатку арганізацыі гаспадаркі ставім сваёй мэтай будаваць яе на навукова-тэхнічным грунце, з паступовай машынізацыяй прац спэцыялізацыі гаспадаркі і г. д., дык пытаньні арганізацыі тэрыторыі неразлучна ўвязаны з пытаньнямі грунтоўнага паляпшэньня глеб і толькі пасьля выкананьня гэтага мы цьвёрда можам будаваць тую ці іншую гаспадарку з тым ці іншым спэцыялізаваным ухілам і г. д.

Адсюль добра зрабіць вывад, што мэліарацыйныя працы ёсьць частка працы арганізацыі тэрыторыі і калгаспадарка, раней чым цьвёрда пачне ажыцьцяўляць свае агранамічна-вытворчыя пляны, павінна зьвярнуць належную ўвагу на выкананьне гэтых прац, бо арганізацыя тэрыторыі ёсьць прадпасылка для ўсіх разьлікаў арганізацыйнага пляну і ўсіх пабудоў гаспадаркі. Практычнае-ж вырашэньне гэтага пытаньня павінна пайсьці па шляху арганізацыі працы ў новаарганізаванай калгаспадарцы, дзе побач са стварэньнем паасобных будаўнічых брыгад і г. д., трэба высунуць пытаньне *стварэньня і асобнай мэліярацыйнай брыгады,* на абавязках якой будзе ляжаць поўнае правядзеньне мэліарацыйных прац.

Мажлівасьць выкананьня намечанай арганізацыі мэліарацыйных прац у калгаспадарках трэба лічыць забясьпечанай, грунтуючыся хаця-б на тым, што вёска мае значную колькасьць працоўных рук, якія скарыстоўваліся альбо дзе-небудзь па-за гаспадаркай, альбо не працавалі. Супольная праца, частковая машынізацыя паасобных вытворчасьцяй павялічвае магчымасьць скарыстаць вольныя рукі на мэліарацыйных працах. Тут патрэбна будзе толькі вырашыць норму аплаты і інш. дробныя пытаньні мясцовага значэньня.

Гэта — адзін бок арганізацыі мэліарацыйных прац у калгаспадарках. Бязумоўна, што поруч з вырашэньнем гэтага пытаньня чыста арганізацыйнага зьместу, трэба будзе паставіць і вырашыць пытаньне арганізацыі гэтых прац і з боку тэхнічнага—вызначыўшы пэўныя шляхі скарыстаньня тарфянікаў у калгаспадарках. Досьледы, які праводзяцца ў нас па скарыстаньні балот, кажуць за тое, што асушаныя балоты зьяўляюцца высокакаштоўнымі (першай якасьці) глебамі, на якіх сельска-гаспадарчыя расьліны даюць вялікія ўраджаі і на якіх мажліва поўная арганізацыя суцэльнай сельскай гаспадаркі.

Адсюль і тэхніка скарыстаньня балот павінна праходзіць, у асноўным, у арганізацыі тарфянікаў як паасобных тэрыторыяльна-гаспадарчых адзінак—з асобным чаргаваньнем сельска-гаспадарчых культур і г. д.

Адсюль тэхніка скарыстаньня тарфянікаў, галоўным чынам, будзе будавацца на аснове чаргаваньня сельска-гаспадарчых расьлін на балоце. Па сутнасьці-ж гэтае пытаньне таксама даволі вывучана і мы ў сучасны момант маем цэлы шэраг чаргаваньняў сельска-гаспадарчых расьлін на тарфяніках, якія прыстасаваны да ўсіх галоўных напрамкаў гаспадарачньня, як-та: укамплектавана-тэхнічны, гародна-прамысловы, луга-пасьбішчны (жывёлаводная) і луга-палявая (зернавая гаспадарка). Практычнае вырашэньне пабудовы чаргаваньня сельска-гаспадарчых расьлін на тарфяніках вырашаецца з пабудовай арганізацыйнага пляну, у якім галоўнымі вырашаючымі момантамі павінна зьявіцца эканоміка раёну і эканамічнае становішча калгаспадаркі.

С. Л.

Заб. бал. дасьл. поле.

# ПРА РЫБНЫЯ СПРАВЫ



**Лукомльская рыбагаспадарчая станцыя з рыбаводным заводам.**

## Да адказу за зрыў пляну ўлову рыбы

У БССР налічваецца 82.000 *га* вазёр і 32.000 кілёмэтраў рэчак. Пры належнай пастаноўцы справы, пры ўважлівых адносінах з боку мясцовых арганізацый, магчыма выканаць намечаны плян улову рыбы ў бягучым годзе ў 30 000 *цнт*.

Справе ўлову рыбы на Беларусі да гэтага часу не аддавалася належнай увагі, а, наадварот, рыбаводны аддзел Наркамзему БССР, здачай у арэнду вадазбораў прыватніку, дапамагаў драпежніцкаму ўлову рыбы. Значная частка рыбы, каля 80—90 проц. ішла не праз рабочую каапэрацыю, а праз прыватніка, аб чым сьведчыць адсутнасьць уліку рыбы па гадох. У выніку гэтага большая частка вадазбораў разбурана.

Пастановай ЭКОСО аб стварэньні спэцыяльнага Акцыянэрнага Таварыства „Белрыба“ паложаны пачатак адводу месца ў нашай гаспадарцы рыбнай прамысловасьці. На „Белрыбу“ ўскладаецца задача культываваньня шматлікіх рэчных і вазёрных вадазбораў у Беларусі, правядзеньня мэліарацыі засяленьня вадазбораў каштоўнымі пародамі рыб, кантроль за правільным уловам і г. д. Але калі гэтыя задачы, у асноўным, павінны разьвязвацца ў першыя гады, дык у апошнія гады асноўнае рэчышча, па якому пойдзе разьвіцьцё рыбнай прамысловасьці ў БССР, гэта будзе стававая (прудавая) гаспадарка. Тут зноў-ткі наяўнасьць балот і мелкіх вазёр, якія спрыяюць добраму вылаўліваньню рыбы, будзе спрыяць разьвіцьцю штучнага распладненьня рыбы ў стававых гаспадарках калгасаў і саўгасаў, дзе будзе вырасьлівацца культурны карп. Калі ў першым годзе па пляну намячаецца атрымаць усяго толькі 2.300 *цнт* гэтага культурнага карпа, дык у наступным годзе яго намечана атрымаць 8.800 *цнт*, а к канцу пяцігодкі 76.000 *цнт*, у той час, як прырсдныя вадазборы здолеюць даць к канцу пяцігодкі толькі палавіну гэтага.

Ня гледзячы на тое, што да пачатку вясеньняга ўлову засталося зусім мала часу, ад буйных арцеляй Кустпрамкаапэрацыі да гэтага часу няма канкрэтных заявак на сетматар'ялы і інвэнтар, а Кустпрамсаюз на месцах ня робіць ніякіх захадаў да выяўленьня інвэнтару і снасьцей, у якіх адчуваецца недахоп.

Пытаньне аб арганізацыі арцеляў у калгасах было разьвязана пастановай ЭКОСО ад 21-III б. г., дзе было ўстаноўлена, што там, дзе няма арганізаваных рыбацкіх арцеляў, калгасы вылучаюць з свайго асяродзьдзя спэцыяльныя рыбацкія брыгады, якія абслугоўваюць усе

вадазборы каля калгасу. І вось факты, як выконваюцца гэтая дырэктыва: у Рэчыцкім раёне, дзякуючы ведамсьцьвеннаму падыходу Калгасцэнтру і Калгассаюзу на мясцох, гэтых дырэктываў няма і калгасы „Паростак сацыялізму" і „Камінтэрн" не дазваляюць лавіць рыбу існуючым там арцелям, а Кустпрамсаюз замест таго, каб сур'ёзна паставіць пытаньне перад мясцовымі акруговымі арганізацыямі, абмяжоўваецца пісанінай. У выніку такіх адносін мы маем выкананьне пляну з 1 студзеня па 1 красавіка ў сярэднім на 40 проц., а калі ўзяць па паасобных акругах, дык па Менскай на 8 проц., па Бабруйскай на 17 проц., па Віцебскай на 22 проц., па Гомельскай на 40 проц. і г. д.

Трэба адзначыць ня зусім уважлівыя адносіны, а ў некаторых выпадках нават нежаданьне некаторых акрвыканкомаў выконваць намечаны плян. Напрыклад, Полацкі акрвыканком на працягу 2 месяцаў „змагаўся" за тое, каб захаваць рыбацкія арцелі ў сыстэме Паляводчай каапэрацыі і нават пасьля пастановы і 2 тэлеграм ЭКОСО, з катэгарычнай прапановай перадаць арцелі Кустпрамкаапэрацыі, ня выконваў гэтых патрабаваньняў. Заўважваецца таксама нежаданьне поўнасьцю выканаць гадавы плян; плян быў вызначаны тым-жа Полацкім акрвыканкомам з памяншэньнем на 60 проц. супроць намечанага Белрыбай.

Плян улову рыбы для Полацкай акругі вызначаны ў 1.000 тон, з якіх каля 80 проц. думаюць завезьці для гораду Менску. Акрвыканком лічыць, што гэты плян немагчыма выканаць, паколькі па даных уліку ўлову „удзельнікамі" там усяго можна будзе вылавіць толькі 500 тон.

Довадам-жа таго, што плян у 1.000 тон зьяўляецца рэальным, служыць тое, што за час з 1 студзеня па 1 красавіка толькі трыма гаспадаркамі Белрыбы — Асьвейскай, Лепельскай і Наўліцкай, якія ахопліваюць ня больш палавіны акругі — плян выкананы на 78 проц.

У Менскім акрвыканкоме, ня гледзячы на тое, што плян улову яму пададзены яшчэ ў лютым месяцы, да гэтага часу яшчэ недзе бадзяецца па канцылярыі і чакае заключэньня.

Усе гэтыя факты кажуць аб тым, што патрэбна зараз-жа высьвятліць рыбную справу, а быць можа і перадаць яе пракурору для таго, каб прымусіць усе арганізацыі, якія заклікаsuccessfully дапамагчы, выканаць гэты плян, а ня весьці размову і перапіску. Тут трэба адзначыць, што Белрыба недастаткова рэзка паставіла пытаньне невыкананьня гэтымі арганізацыямі цэлага шэрагу пастаноў аб фарсаваньні рыбнай прамысловасьці.

Часу засталося мала. Трэба зараз-жа праз рабочую грамадзкасьць, рабочыя брыгады праверыць, што зроблена Белкустпрамсаюзам, Белкалгассаюзам, Белрыбай і акрвыканкомамі на мясцох, для таго, каб забясьпечыць выкананьне намечаных плянаў.

Неабходна давесьці пляны ўлову да кожнага калгасу і водазбору.

Праверыць, ці забясьпечаны рыбалоўныя арцелі неабходным сетматар'ялам і інвэнтаром.

Выдзеліць спэцыяльны фонд прэміраваньня рыбакоў за добры ўлоў, забясьпечваючы іх неабходнымі прадуктамі жыўленьня.

Белрыбсэкцыі камандыраваць сваіх прадстаўнікоў у Полацкую і Мазырскую акругі, якія павінны даць значную колькасьць рыбы для Менску. Друку (газэтам) асьвятляць на сваіх старонках ход улову.

**Рыбак.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова Калегіі НКЗБ ад 10—11 красавіка 1930 г. аб спэцыялізацыі раёнаў па вядучай галіне с.-г.

1. Зацьвердзіць арыентыровачна далучаемы да гэтага сьпіс раёнаў і напрамак сельскай гаспадаркі, уперад да правядзеньня с.-г. раёнаваньня.

2. Выходзячы з устаноўленага напрамку паасобных раёнаў, замацаваць іх у залежнасьці ад вядучай галіны за спэцыяльнымі калгаснымі саюзамі наступным чынам:

а) за паляводсаюзам замацаваць 21 ільняна-малочны раён і 32 бульбяных раёны (індустрыяльнай і вывознай бульбы), усяго 53 раёны;

б) за малжывёлаводсаюзам замацаваць 37 раёнаў інтэнсыўнай жывёлагадоўлі малочных і сьвінагадоўчых і 10 мясажывёлагадоўчых раёнаў (палескага тыпу), усяго 47 раёнаў;

в) за садкалгассаюзам асобных раёнаў не замацоўваць, пры чым ён павінен абслугоўваць садоўніцтва, гародніцтва і пчалярства ва ўсіх гаспадарчых раёнах БССР.

Прасіць СНК пераглядзець свае пастановы ад 14-І—30 г., дазволіўшы арганізацыю раённых і міжраённых садова-гародных т-ваў;

г) абслугоўваньне спэцыяльных калгасаў іншых напрамкаў унутры раёнаў утвараецца калгассыстэмай вядучай галіны на падставе спэцыяльных дагавораў з саюзамі адпаведнай галіны, да якой належаць памянёныя спэцыяльныя калгасы.

3. Работу па спэцыялізацыі калгасаў вытвараць такім чынам, каб арганізаваць у гнездавым парадку калгасы адпаведнай вядучай галіны навакол маючыхся спэцыяльных саўгасаў, пры гэтым і саўгасы павінны аказваць вакольным калектыўным гаспадаркам дапамогу ў складаньні арганізацыйна-вытворчых плянаў і ажыцьцяўленьне апошніх.

4. Прапанаваць спэцыяльным калгасным саюзам зрабіць рашучы пералом у справе паглыбленьня работ па спэцыялізацыі існуючых калгасаў і арганізацыі новых калгасаў спэцыяльнага напрамку, з тым, каб поўнасьцю выканаць у гэтых адносінах плянавыя заданьні на бягучы год. Да 1-VI бягучага году скончыць устанаўленьне напрамкаў кожнага паасобнага існуючага ўнутры раёнаў калгасу і прадставіць НКЗ і Калгасцэнтру тытульны сьпіс спэцыялізаваных калгасаў з асноўнымі паказчыкамі гаспадаркі і зрабіць даклад аб праробленай працы па спэцыялізацыі калгасаў.

Старшыня Калегіі НКЗБ МАСЮКОЎ.

Сакратар ЯЦЫНА.

### Арыентовачная вядучая галіна сельскай гаспадаркі паасобных раёнаў БССР.

Ільняна-малочная

| Акруга | Раёны |
|---|---|
| Аршанская акруга, 6 раёнаў | Копыскі, Дубровенскі, Ляднянскі, Горацкі, Круглянскі, Чарэйскі |
| Віцебская акруга, 8 раёнаў | Межанскі, Сіроцінскі, Гарадокскі, Сураскі, Бешанковіцкі, Лязьнянскі, Чашніцкі, Сеньненскі |
| Магілеўская акруга, 1 раён | Шклоўскі |
| Менская акруга, 1 раён | Халопеніцкі |
| Полацкая акруга, 5 раёнаў | Дрысенскі, Асьвейскі, Расонскі, Валынецкі, Вульскі |

Усяго . 21 раён.

**Бульбяныя (індустрыяльная і вывазная бульба).**

| Акруга | Раёны |
|---|---|
| **Аршанская акруга**<br>3 раёны | Талачынскі<br>Коханаўскі<br>Крупскі |
| **Бабруйская акруга**<br>4 раёны | Жлобінскі<br>Рагачоўскі<br>Асіпавіцкі<br>Сьвіслацкі |
| **Гомельская акруга**<br>8 раёнаў | Рэчыцкі<br>Веткаўскі<br>Брагінскі<br>Церахоўскі<br>Лоеўскі<br>Буда-Кашалеўскі<br>Чачэрскі<br>Хойніцкі |
| **Магілеўская акруга**<br>9 раёнаў | Чэрыкаўскі<br>Прапойскі<br>Быхаўскі<br>Журавіцкі<br>Чачэвіцкі<br>Кармянскі<br>Краснапольскі<br>Касьцюковіцкі<br>Хоцімскі |
| **Мазырская акруга**<br>4 раёны | Калінкавіцкі<br>Азарыцкі<br>Капаткевіцкі<br>Юравіцкі |
| **Менская акруга**<br>4 раёны | Пухавіцкі<br>Чэрвенскі<br>Бярэзінскі<br>Вузьдзенскі |

Усяго . 32 раёны

**Малочныя і сьвінагадоўчыя**

| Акруга | Раёны |
|---|---|
| **Аршанская акруга**<br>5 раёнаў | Багушэўскі<br>Аршанскі<br>Дрыбінскі<br>Расьнянскі<br>Мсьціслаўскі |
| **Бабруйская акруга**<br>6 раёнаў | Бабруйскі<br>Парыцкі<br>Клічаўскі<br>Слуцкі<br>Чырвона-Слабодзкі<br>Старобінскі |
| **Віцебская акруга**<br>2 раёны | Віцебскі<br>Высачанскі |
| **Гомельская акруга**<br>2 раёны | Гомельскі<br>Уваравіцкі |
| **Магілеўская акруга**<br>6 раёнаў | Магілеўскі<br>Лупалаўскі<br>Чаўскі<br>Клімавіцкі<br>Бялыніцкі<br>Крычаўскі |
| **Менская акруга**<br>12 раёнаў | Грэскі<br>Самахвалаўскі<br>Койданаўскі<br>Сьмілавіцкі<br>Заслаўскі<br>Астр.-Гарадз.<br>Смалявіцкі<br>Лагойскі<br>Барысаўскі<br>Копыльскі<br>Плешчаніцкі<br>Бягомльскі |
| **Полацкая акруга**<br>4 раёны | Вушацкі<br>Ветрынскі<br>Полацкі<br>Лепельскі |

Усяго . 37 раёнаў

**Мяса-жывёлагадоўчыя (Палескі тып).**

| Акруга | Раёны |
|---|---|
| **Бабруйская акруга**<br>3 раёны | Глускі<br>Любаньскі<br>Стара-Дарокі |
| **Гомельская акруга**<br>1 раён | Камарынскі |
| **Мазырская акруга**<br>6 раёнаў | Жыткавіцкі<br>Петрыкаўскі<br>Тураўскі<br>Лельчыцкі<br>Каралінскі<br>Нараўлянскі |

Усяго . 10 раёнаў

**Разам па БССР—100 раёнаў**, у тым ліку замацоўваюцца за Белкалгаспаляводсаюзам—53 раёны і за Белкалгасжывёлаводсаюзам—47 раёнаў.

# Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

## пра мерапрыемствы для разьвіцьця жывёлагадоўлі і пашырэньня кармовае базы БССР.

Для павялічэньня пагалоўя статку буйнае і дробнае жывёлы, а таксама для лепшага забесьпячэньня працоўнага насельніцтва мяснымі і малочнымі прадуктамі, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

### I. У галіне павялічэньне статку:

1. З прыплоду 1929-30 г. ад найбольш прадукцыйных кароў пакінуць на папаўненьне малочнага статку 40 проц. цялят ад нал́іча дойных кароў. Астатнюю колькасьць цялят скарыстаць для вырашчваньня на мяса. У калгасах, апроч тых, дзе статак аграмаджаны, кіраўніцтвы калгасаў вызначаюць па асобных дварох калгасьнікаў колькасьць маладняку для вырашчваньня, бяручы пад увагу ў кожным паасобным выпадку якасьць пакідаемай на племя жывёлы і кармавыя ўмовы. У індывідуальных гаспадарках разьмеркаваньне па дварох кантынгенту цялят, якія пакідаюцца на племя, даручыць рабіць сельскім саветам пад непасрэдным кантролем раённых выканаўчых камітэтаў.

2. Для папаўненьня статку захаваць у савецкіх гаспадарках прыплод 1929-30 г. ад усіх відаў жывёлы, апроч тэй, якая па пастанове асобных камісій з удзелам вэтэрынарна-заатэхнічнага нагляду будзе забракавана, як зусім нягодная для вырашчваньня.

3. Вызначаную пастановай Эканамічнай Нарады БССР кантрактацыю цялят на 1929-30 г. павялічыць для калектыўных гаспадарак да 50.000 галоў. Прапанаваць Белмалжывёлсаюзу ўжыць захады да максымальнага пашырэньня ў індывідуальных сялянскіх гаспадарках безавансавай кантрактацыі цялят.

4. Для разьмяшчэньня ў 1929-30 г. аграмаджанай жывёлы пабудаваць новыя будынкі, выходзячы з разьмяшчэньня ў кожным будынку ад 100 да 200 галоў буйнай рагатай жывёлы, а таксама скарыстаць для гэтай мэты гаспадарчыя будынкі ліквідаваных кулацкіх гаспадарак і аслабаніўшыяся будынкі ў тых калгасах, у якіх аграмаджана жывёла.

5. Пры аграмаджаньні гэтае жывёлы рабіць аграмаджаньне кармоў у колькасьці, якая патрэбна для жывёлы на пэрыяд да выхаду на пашу.

6. Аграмаджаную да вясны 1930 году жывёлу цалкам забясьпечыць на зімовы пэрыяд кармамі з калгасных зямель, для чаго кіраўніцтвам калгасу пад іх адказнасьць прадугледзіць пры складаньні вытворчых плянаў вылучэньне патрэбных плошчаў пад культуры кармоў і арганізаваць захаваньне гэтых кармоў.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белсельгасснабу ўжыць усе захады для максымальнага забесьпячэньня патрэб калектыўных і савецкіх гаспадарак насеньнем палявых траў і караньплодаў.

7. Для разьвіцьця высокапрадукцыйнай жывёлы даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства разам з Белкалгасцэнтрам арганізаваць у БССР ня менш 40 буйных калгасаў і зараз-жа пачаць у іх арганізацыю спэцыялізаваных жывёлаводных гаспадарак малочнага і мяснога напрамку.

8. Агульную колькасьць буйнай рагатай жывёлы ў паказаных у арт. 7 гаспадарках давесьці да восені 1930 г., як мінімум, разам з аграмаджанай жывёлай калгасьнікаў у 40.000 галоў. Даручыць Белкалгасцэнтру ўжыць захады для забесьпячэньня гэтай колькасьці жывёлы кармамі. Белкалгасцэнтру зараз-жа скласьці каштарысы на пабудову скотных двароў і сьвінушнікаў з тым, каб прыступіць да гэтага будаўніцтва не пазьней 1 красавіка 1930 году.

9. Для большай спэцыялізацыі савецкіх гаспадарак у галіне малочнай і мясной жывёлагадоўлі арганізаваць не пазьней 1-га красавіка малочны і сьвінаводны трэсты. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства вызначыць патрэбны лік гэтых гаспадарак і правесьці іх пашырэньне і ўзбуйненьне.

10. Для пашырэньня і палепшаньня аўцагадоўлі і наданьня ёй таварнага характару, лічыць патрэбным давесьці статак авец у савецкіх гаспадарках на працягу 1930-31 г. да 10.000 галоў, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства вылучыць адпаведныя гаспадаркі, а таксама арганізаваць племянную аўчарню з лікам матак да 500 галоў.

11. Для аховы жывёлы ад эпізаатычных захворваньняў пры ўтрыманьні іх у агульных хлявох, даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства забясьпечыць жывёлагадоўчыя гаспадаркі малочнага і мяснога напрамку патрэбным вэтэрынарным пэрсаналам.

## II. У галіне арганізацыі малочных фэрм

1. Даручыць сыстэме спажывецкай каапэрацыі арганізаваць чатыры фэрмы з колькасьцю кароў па 1000 галоў у кожнай.

2. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белкалгасцэнтру з ліку 40 буйных калгасаў, якія арганізуюцца паводле арт. 7, разьдзелу 1 гэтае пастановы, вылучыць ня менш 12 гаспадарчых адзінак каля гарадоў з агульным лікам жывёлы ня менш 10.000 кароў.

3. Даручыць Белсельтрэсту арганізаваць у 1930 г. 12 малочных прамысловых фэрм з колькасьцю кароў ня менш 12.000 галоў.

## III. У галіне забесьпячэньня мясам

1. Для задавальненьня патрэбы гарадоў у мясе, ахапіць кантрактацыяй у 1930-31 годзе таварную мясную прадукцыю буйнай рагатай жывёлы і сьвіней. Прапанаваць кантрактуючым арганізацыям ужыць зараз-жа захады для падрыхтоўкі да выкананьня кантрактацыі мяснойжывёлы 1930-31 г.

2. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Земляробства ўжыць належныя захады для замены на працягу 1929-30 г.— 1930-31 г. у сельскай гаспадарцы рабочых валоў—коньмі.

3. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белкалгасцэнтру давесьці колькасьць сьвіных матак у аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі да 150.000 штук, з таварным выхадам сьвіней у 1930-31 г. ня менш 750 галоў.

Народнаму Камісарыяту Земляробства і Белкалгасцэнтру арганізаваць у савецкіх і калектыўных гаспадарках буйныя прамысловыя сьвінагадоўчыя гаспадаркі.

4. Уся таварная прадукцыйная мясная жывёла савецкіх і калектыўных гаспадарак, якая нарыхтоўваецца для забесьпячэньня працоўнага насельніцтва, павінна быць прапушчана праз адкормачныя пункты савецкіх і калектыўных гаспадарак. Белсельтрэсту ўжыць захады да адкармліваньня ў 1930 г. ня менш 15.000 кароў, мясному трэсту ня менш 10.000 кароў.

Белдзяржсьпірту арганізаваць пры броварных заводах сталыя адкормачныя базы з такім разьлікам, каб на іх у 1930 г. адкарміць ня менш 4.000 кароў.

Белмяса адкарміць у 1930-31 г. 12.000 сьвіней, сыстэме спажывецкай каапэрацыі 42.000.

5. Арганізаваць да канца 1930-31 г. у сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі 5 буйных птушкакрольчатых гаспадарак.

6. Фінансаваньне ўсіх мерапрыемстваў па жывёлагадоўлі ў 1929-30 г. вызначыць у 19,5 млн. руб.

## IV. У галіне кармавой базы

1. Прапанаваць НК Земляробства імкнуцца да максымальнай замены збожжавага корму пашнямі, сіласным кормам, караньплодамі, бульбай і бабовымі расьлінамі.

2. Адзначаючы асаблівае значэньне ва ўмовах БССР лугавой гаспадаркі, даручыць НК Земляробства ўжыць захады да правядзеньня палепшаных сенажацяй у 1929-30 г. на плошчы 286 тыс. гэктараў, усклаўшы адказнасьць за выкананьне гэтага заданьня на раённыя выканаўчыя камітэты і адпаведныя праўленьні калгасаў.

3. Для забесьпячэньня сельскай гаспадаркі насеньнем лугавых траў, закладкі штучных лугоў і пашняй разьвіць лугавое насенаводзтва, для чаго вясной 1930 г. арганізаваць насенныя рассаднікі лугавых траў на плошчы ня менш 5.000 гэктараў, маючы на ўвазе патрэбу далейшай канцэнтрацыі вытворчасьці насеньня ў буйных спэцыялізаваных лугавых насенных гаспадарках.

4. На працягу 1930 г. падрыхтаваць у савецкіх і калектыўных гаспадарках для закладкі лугоў і пашняй будучага году плошчу ня менш 18 т. гэктараў.

5. Для павялічэньня кармавых рэсурсаў прыняць патрэбныя меры да найбольшага скарыстаньня ва ўсіх савецкіх і калектыўных гаспадарках незанятых папараў, да максымальнага мажлівага разьвіцьця сіласаваньня са скарыстаньнем для сіласа атавы, асекі, сэрадэлі, другаўкоснай канюшыны, бульбяной батвы і г. д. Адначасова ў саўгасах і калгасах прыступіць да пашырэньня з гэтага году спэцыяльнай культуры расьлін для сіласа (кукуруза, сланэчнік, земляная груша, кармовая капуста і г. д.), усямерна скарыстоўваючы пад гэтыя культуры асушаныя тарпяныя землі, не патрабуючыя навознага ўгнаеньня.

6. Для павялічэньня валавой прадукцыі кармавых культур на палёх і забесьпячэньня ўгнаеньнямі лугоў і пашняў, прапанаваць НК Земляробства, Белсельтрэсту і Калгасцэнтру прыняць меры да закладкі ў кожным калгасе і саўгасе кампостаў з поўным скарыстаньнем усіх годных для гэтага адкідаў хатняй і сядзібнай гаспадаркі драўеснай ліствы і інш.

7. Даручыць НК Земляробства распрацаваць пытаньне аб найбольш поўным зборы і скарыстаньні попелу.

8. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства ўжыць захады:

а) да пашырэньня бабовых культур на зялёны корм і сена і да ўвядзеньня іх у склад сіласнай масы і

б) да больш шырокага разьвіцьця культуры зернавых бабовых расьлін.

9. Для забесьпячэньня вырашчваньня маладняка канцэнтраванымі кармамі і для зьмяншэньня затраты малака для адкармліваньня маладняку, даручыць Народнаму Камісарыяту Гандлю вылучыць на 1929-30 г. спэцыяльна для кармленьня цялят да 3.000 тон ільнянога насеньня.

10. Даручыць НК Гандлю арганізаваць у гэтым годзе прапрацоўку боінскіх астаткаў і туш, якія ня ідуць на мяса, для загатоўкі канцэнтраваных кармоў.

ВСНГ сумесна з НК Земляробства і НК Гандлю распрацаваць пытаньне аб арганізацыі камбінаваных кармоў са скарыстаньнем лішкаў сельска-гаспадарчай і харчовай прамысловасьці і плян арганізацыі гэтай вытворчасьці, з вылічэньнем патрэбных сродкаў і ўнесьці на працягу месяца на разгляд Эканамічнай Нарады.

11. У інтарэсах разьвіцьця прыгарадных малочных фэрм, а таксама адкормачных баз для буйнай рагатай жывёлы і забесьпячэньня іх добраякаснымі кармамі, прапанаваць НК Земляробства ў кантрольных лічбах на 1930-31 г. прадугледзіць арганізацыю на асушаных балоцістых плошчах буйных мэханізаваных лугавых гаспадарак вузка спэцыяльнага характару, а ў 1929-30 г. пачаць у адным з савгасаў Белсельтрэсту пабудову заводу хлоп'явіднай бульбы з прапускной здольнасьцю да 20 тыс. тон сыравіны.

12. Для пашырэньня сіласаваньня кармоў НК Земляробства і Белкалгасцэнтру тэрмінова падрыхтаваць з аграпэрсаналу інструктароў-практыкаў па закладцы сіласаў і арганізацыі сілоснай гаспадаркі з тым, каб да жніўня у кожным раёне было ня менш, як па аднаму інструктару.

## V. У галіне будаўніцтва скотных двароў ды інш.

1. Даручыць НК Земляробства і Калгасбуду:

а) распрацаваць стандартныя тыпы скотных двароў, сьвінушнікаў, сілосных установак і іншых гаспадарчых будынкаў для калгасаў;

б) для папулярызацыі будаўніцтва выдаць шэраг спэцыяльных брашур і папулярных плякатаў, прыгодных для практычнага карыстаньня ў якасьці рабочых рысункаў для гэтага будаўніцтва;

в) тэрмінова падрыхтаваць патрэбны кадр рабочых і тэхнікаў для сельска-гаспадарчага будаўніцтва буйных мэханізаваных скотных двароў і сілосных установак, скарыстоўваючы для гэтага практыкаў-будаўнікоў з саміх калгасьнікаў;

г) прапанаваць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі разам з Народным Камісарыятам Земляробства распрацаваць пытаньне пра выраб у БССР матар'ялаў для клёпачных сілосных башняў, а таксама ўжыць захады для забесьпячэньня сельскай гаспадаркі абсталяваньнем мэханізаваных скотных двароў і іншых сядзібных будынкаў у выглядзе рэйкавых шляхоў, ваганэтак, трансмісій, транспарцёраў і г. д.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ўзяць пад асобны нагляд і кантроль выкананьне гэтае пастановы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР М. ГАЛАДЗЕД.

Нам. Кіраўніка Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР Л. ДУБАВІЦКІ.

Г. Менск. 18 сакавіка 1930 г.

Адказны рэдактар П. Рачыцкі. Рэдактар—**Рэдкалегія.**

# Да ўсіх калгасьнікаў, спэцыялістых с.-г., зямельных працаўнікоў і працаўнікоў, працуючых у вёсцы.

У мэтах больш сваячасовага асьвятленьня пытаньняў сацыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, палепшаньня жывёлагадоўлі і спэцыялізацыі саўгасаў і калгасаў, Калегіяй Народнага Камісарыяту Земляробства вынесена пастанова пачаць выдаваць часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ 2 разы ў месяц.

Для таго, каб забясьпечыць часопіс патрэбнымі матар'яламі і каб часопіс мог адбіваць сучасныя сацыяльныя зрухі, якія адбываюцца ў сельскай гаспадарцы,—рэдакцыя зварочваецца да ўсіх калгасьнікаў, спэцыялістых сельскай гаспадаркі, зямельных працаўнікоў і іншых працаўнікоў, працуючых у вёсцы, аб прысылцы матар'ялаў.

Прысылаемыя матар'ялы павінны адбіваць у зразумелай, папулярнай форме ўсе дасягненьні саўгасаў і калгасаў, а таксама посьпехі выкананьня розных кампаній, прычым прысылаемыя матар'ялы павінны быць памерам каля 3-х друкаваных старонак.

Асаблівае значэньне павінна быць зьвернута на пытаньні асьвятленьня ходу калектывізацыі веснавых і асеньніх сельска-гаспадарчых кампаній, арганізацыі і разьвіцьця спэцыялізаваных сьвінаводных і малочна-жывёлаводных саўгасаў і калгасаў, а таксама і на тыя палепшаньні ў сельска-гаспадарчай вытворчасьці, якія вынікаюць з масавага калгаснага руху ў сельскай гаспадарцы.

Нямалае значэньне трэба прыдаць пытаньням вынаходніцтва ў сельскай гаспадарцы, сацыялістычнаму спаборніцтву, як аснове для далейшага пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва.

Трэба дасылаць матар'ялы, выкрываючыя права-апартуністычную практыку, якая мелася ў мінулым і якая пад уплывам дробна-буржуазных элемэнтаў вёскі і зараз магчыма, а таксама выкрываючы як адкрытыя, так і скрытыя формы левага загібу ў пытаньнях калектывізацыі.

Трэба зрабіць часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ такім, каб ён як належыць дапамагаў справе перабудовы сельскае гаспадаркі, а гэта будзе магчыма і дасягнута толькі тады, калі ў ім прымуць удзел шырокія колы калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, спэцыялістых і зямельных працаўнікоў, а таксама і ўся савецкая і партыйная грамадзкасьць, працуючая на вёсцы.

Рэдакцыя.

**ЦАНА 20 КАП.**



ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“



Часопіс социялістычнага земляробства і аграназацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, аграмічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б**
**Тэлефон 17-15.**

Менск, друк. БДВ. Зак. № 1905. 12.000. (3½ арк.) Галоўлітбел № 1985.